ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

7 ЛІПЕНЯ 1995 г. № 27 (3799) Кошт 2 000 руб.







## АХ, КАРМЭН!..

З беларускай опернай сцэны гэты твор, здаецца, не сыходзіў ніколі. Мяняліся рэжысёры, мяняліся сцэнічныя версіі славутай "Кармэн" — любоў выканаўцаў і публікі да неўміручага сюжэта, да хрэстаматыйна вядомых мелодый заставалася нязменнай. "Кармэн" Ж. Бізэ, першы спектакль, якім 62 гады таму адкрыўся ў Мінску тэатр оперы і балета, з Ларысай Александроўскай у галоўнай ролі, — гэта ўжо легенда. "Кармэн", апошняя прэм'ера бягучага опернага сезона, — мабыць, таксама некалі станецца легендай. Таму што ўпершыню загучала яна ў нашым тэатры на мове арыгінала, таму што самы першы паказ абноўленай "Кармэн" адбыўся пад кіраўніцтвам нямецкага дырыжора В. Кайтэля і з удзелам іншаземных салістаў: аргенцінцаў Н. Паласіяс (Кармэн), Э. Гуэдаса (Эскамільё), амерыканца С. Флаэрці (Хазэ) ды бразільянкі Л. дэ Соўза (Мікаэла). Таму што зала ці не стагнала ад націску публікі і многім давялося глядзець спектакль, стоячы на галёрцы...

Такім чынам, новая "Кармэн": музычны кіраўнік і дырыжор — Мікалай Калядка, рэжысёр-пастаноўшчык — Вячаслаў Цюпа, мастак — Людміла Ганчарова. У галоўных партыях — Наталля Руднева, Эдуард Пелагейчанка, Аркадзь Саўчанка, Наталля Кастэнка ды іншыя вядучыя салісты тэатра. Дзякуючы "аскетычнай" сцэнаграфіі спектакль набыў кампактнае аблічча, і гэта невыпадкова: пасля прэм'ерных паказаў у Мінску "Кармэн" выправілася ў дарогу — беларуская трупа падрыхтавала сваю новую работу да трохдзённых гастроляў у Германіі.

І вось — апошняя навіна: наша "Кармэн" мела гарачы прыём у нямецкіх гледачоў. Акрыленыя поспехам удзельнікі вярнуліся ў Мінск, сезон тэатра оперы і балета прадаўжаецца.

**Н. К.**

*На здымках: сцэны са спектакля.*
*Фота Віт.АМІНАВА*

***Сёння — Купалле, самае прыгожае народнае свята. Свята летняга сонцастаяння і росквіту ўсіх прыродных сіл. Свята, якое хоць і "прыручана" царквою, як і іншыя народныя святы, але ўсё ж збераглося ва ўсёй сваёй язычніцкай красе, чысціні і моцы, яно і сёння жывое і дзейнае. І ў нашы дні людзі, найперш моладзь, праводзяць на берагах рэк і азёр усю кароткую купальскую ноч, да самага ўзыходу сонца паляць купальскія кастры, водзяць карагоды, ладзяць гульбішчы і — шукаюць шчасце, чароўную Папараць-кветку, што надзяляе чалавека разуменнем мовы дрэў, звяроў і птушак, адкрывае яму зямныя скарбы.***

***Не адну сотню гадоў беларускі народ шукаў сваю Папараць-кветку і не знаходзіў яе. Надараліся часіны, калі яна быццам адкрывалася людзям, але — не надоўга. Не даецца яна ў рукі нам і сёння. Ды мы, здаецца, ужо і не шукаем яе, знябыўшыся. А між тым, на наступным тыдні спаўняецца год прэзідэнцтва спадара Лукашэнкі...***

## СВЯТА ТЫДНЯ

3 ліпеня мы адзначылі 51-ую гадавіну вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У Мінску, на плошчы Перамогі, былі ўрачыста ўскладзены вянкі да помніка-абеліска воінам, партызанам і падпольшчыкам ад прэзідэнта Беларусі, урада рэспублікі, Міністэрства абароны, прадстаўнікоў дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, духавенства. Да прысутных на плошчы звярнуўся прэзідэнт А.Лукашэнка. Ён сказаў добрае слова пра тых, хто вызваляў нашы вёскі і гарады, а пасля ўздымаў іх з руін, падкрэсліў неабходнасць пастаянных клопатаў аб ветэранах. І па звычцы паабяцаў, што і пасля адмены ільгот тыя людзі, "которые в боях и труде заслужили право на достойную старость, будут получать после реализации указа больше средств, чем получают сейчас". Толькі, здаецца, ужо і старыя людзі не надта вераць у гэта...

## ПАДТРЫМКА ТЫДНЯ

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі падтрымае акцыі пратэсту працоўных з прычыны нявыплаты заробку. Пра гэта заявіў кіраўнік ФПБ У.Ганчарык. Паколькі факты нявыплаты заробку прынялі масавы характар, прэзідыум федэрацыі прыняў рашэнне аказваць падтрымку рабочым ва ўсіх лакальных канфліктах з адміністрацыяй прадпрыемстваў. Урад згадзіўся з прапановай прафсаюзаў правесці перамовы аб ліквідацыі запазычанасці па зарплаце і павелічэнні аплаты працы. Згода — рэч, вядома, добрая. Толькі — дзе ўзяць сродкі для падмацавання гэтай згоды?

## ЭКСПЕДЫЦЫЯ ТЫДНЯ

Па рэках Беларусі праходзіць у гэтыя дні адзін з этапаў міжнароднай экспедыцыі "Трансеўропа — Нява — Вікінг", наладжанай пад эгідай ЮНЕСКА. На судне, пабудаваным па ўзоры старажытнарускай ладдзі X—XI стст., удзельнікі экспедыцыі (а сярод іх — і прадстаўнік нашай краіны) пройдуць шляхам "з варяг у грэкі" больш чым 3 тысячы кіламетраў. Удалага плавання "вікінгам"!

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Стабільнасць курса ёсць, а стабільнасці ў эканоміцы няма. Вось што не падабаецца. Міжволі пачынаеш думаць, што і стабільнасць таго ж курса — уяўная. Звернем увагу: гаворым "крызіс", але дзе грунтоўны аналіз гэтага крызісу, аналіз яго сапраўдных вытокаў? "Сувязі парушаны" — і ўсё на гэтым?

А значыць, калі браць і той жа курс, — цяжка аб'ектыўна ацаніць сапраўды рэальныя адносіны паміж попытам і прапанаваннем, у нас эканамічная сітуацыя ўвогуле не паддаецца прагназаванню... Тым не менш, відавочна адно, гэтага проста нельга не заўважаць: вынайдзеная стабільнасць вельмі моцна б'е па нашых прадпрыемствах. У нас яны завязаны пераважна на Расію, у нас долар стаіць, нават крыху страціў у сваім значэнні, там — паступова рос амаль пяць месяцаў. У выніку нашы прадпрыемствы, аддаючы туды сваю прадукцыю, атрымліваюць тую ж колькасць расійскіх рублёў, але менш, чым раней, долараў і ўжо значна менш — беларускіх рублёў..."

*(З інтэрв'ю віцэ-прэзідэнта Мінскага транзітнага банка В.Малахоўскага, "Звязда", 6 ліпеня г.г.)*

## РАЦЫЁН ТЫДНЯ

Сёння сярэднедушавое спажыванне хлеба па краіне складае 265 грамаў на чалавека ў суткі. Многа гэта ці мала? Блізка да нормы, так бы мовіць. Пры пагаршэнні якасці харчавання норма гэтая павялічваецца, пры паляпшэнні — памяншаецца. Справа ў іншым. Наша хлебапякарная галіна ледзь спраўляецца з выпускам і гэтай колькасці хлебабулачных вырабаў: не хапае пшанічнай мукі, няма сродкаў для абнаўлення тэхналагічнага абсталявання. Адным словам, і з хлебам могуць быць праблемы...

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ТЫДНЯ

У Акадэміі навук прайшла прэзентацыя першай нацыянальнай справаздачы аб чалавечым развіцці Рэспублікі Беларусь. Кніга-справаздача і назву мае такую: "Беларусь: тварам да чалавека". Падрыхтавана яна Аддзяленнем гуманітарных навук АН пры тэхнічнай і фінансавай падтрымцы прадстаўніцтва ААН у Беларусі. Дапамог фінансава і ўрад Японіі. У напісанні справаздачы прынялі ўдзел супрацоўнікі АН, МЗС, Белстандарта, Мінюста, Цэнтра гендэрных даследаванняў. У кнізе прааналізаваны ўзровень і ўмовы сённяшняга жыцця насельніцтва Беларусі, яе дзяржаўная палітыка, эканамічная і экалагічная сітуацыі, стан навукі і культуры, становішча жанчыны ў грамадстве, узровень злачыннасці і г.д. Якімі ж нас пабачыць сусветная супольнасць паводле гэтай кнігі?

## РЭГІСТРАЦЫЯ ТЫДНЯ

Час сёння такі, што мы ўжо нічому не здзіўляемся, у тым ліку і розным рэгістрацыям. Тым не менш... Міністэрства юстыцыі Беларусі пры перарэгістрацыі руху "Беларускі інтэлектуальны рэсурс" зарэгістравала і знак інтэлекту, распрацаваны дызайнерам Ю.Кокінай. Аўтарка графічна спалучыла знак планеты Юпітэр з узыходзячай спіраллю, што сімвалізуе ідэю развіцця, і надпісам па латыні "Signum intellectus". Можам павіншаваць адзін аднаго, спадарове?

## СУД ТЫДНЯ

У адзін дзень пачаўся і быў адкладзены да 5 верасня (шукаюцца новыя сведкі, як сказаў тэлевізійны каментатар) суд "Пазняк — супраць Азаронка". Прыйшоўшых на суд сустракала ці не сотня актывістаў СС "Белая Русь", так званых Беларускага патрыятычнага руху і Руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць. Азаронка, паводле паведамлення газеты "Знамя юности", зала сустрэла апладысментамі. Што ж, гэтых людзей наўрад ці што ацвярэзіць...

З нагоды

# "НАРОД ПРАГАЛАСАВАЎ НЕ ЗА ЛЕПШАЕ, А ЗА ЗВЫКЛАЕ..."

За колькі дзён да "рэферэндуму" мне давялося мець гутарку са спецыялістам-сацыёлагам, які меў немалы вопыт у даследаванні так званай грамадскай думкі. Зразумела, што гаворка ішла пра маючую адбыцца акцыю і пра яе магчымыя вынікі. Я выказваў асцярожны аптымізм, мой суразмоўнік лічыў аптымізм абсалютна беспадстаўным. Прыцярпеласць, звычка — вось што, на ягоную думку, вызначае сёння стаўленне народа (альбо насельніцтва, як каму болей падабаецца) да ўлады. Таму і спадзявацца ў блізкэйшы час няма на што. Каб растлумачыць, чаму людзі церпяць амаральную і некампетэнтную ўладу, усведамляючы не заганы, ён прывёў у якасці паралелі побытавую сітуацыю. Чаму, напрыклад, жонка церпіць мужа, які рэгулярна напіваецца, чыніць у хаце "крутыя" разборкі і ўвогуле ставіцца да яе далёка не па-джэнтльменску? Чаму ёй у галаву не прыйдзе думка хаця б здаць яго ў міліцыю альбо нават пачаць новае жыццё ўжо без яго? Таму што ён — звыклы і зразумелы. Такім альбо падобным яна памятае свайго бацьку, такі ў яе брат, такі ці блізкі да такога стыль жыцця ў яе знаёмых і суседзяў. І вось толькі калі муж па п'янцы праломіць ёй галаву альбо спаліць хату, альбо замахнецца на дзяцей, толькі тады яна прыменіць адносна яго нешта рашучае.

Часам такія стасункі бываюць і ў народа з уладай. Што, дарэчы, і пацвердзіў "рэферэндум". Народ прагаласаваў не за лепшае, а за звыклае. Звыклае і зразумелае. У гэтым сэнсе беларусы нічым не адрозніваюцца ад суседзяў.

Паспрабуем уявіць, што "рэферэндум", накшталт нашага, праводзіўся б у Расіі. Мы ўсе памятаем, як "зацвярджаўся" ў якасці дзяржаўнага расійскі трыкалор. Было прыблізна так. Б.Ельцын у жніўні 1991 года, стоячы на вежы танка, паказаў рукою на сцяг, што лунаў над Белым домам, і назваў яго "нашым сцягам". Пасля паразы путчу трыкалор пачаў скарыстоўвацца ў якасці афіцыйнай эмблемы Расіі, і толькі праз некалькі месяцаў спахапіліся, што пра яго няма закона, і закон той "заднім числом", спехам прынялі.

А калі б Ельцын ладзіў з гэтай нагоды рэферэндум? Стаў бы пытацца ў насельніцтва, ці падабаецца яму трыкалор і двухгаловы арол? Так бы дагэтуль і мела Расія сярпаста-малаткастыя сімвалы. Бо — звыкла і зразумела.

Другое пытанне "рэферэндуму" — мова. Калі б расійцаў запытаць, захаваць моўную сітуацыю ў іхняй краіне такой, якая ёсць, альбо для прэстыжу краіны і павышэння культурнага ўзроўню насельніцтва гэтую сітуацыю змяніць? Адказ вядомы загадзя...

Трэцяе: адрадзіць СССР альбо нешта накшталт СССР ці жыць пановаму? І тут нашы ўсходнія суседзі прагаласавалі б за звыклае. І дадатковыя паўнамоцтвы прэзідэнту таксама б далі, каб хутчэй вярнуў краіну ў звыклы лад.

Тым не менш, пасля "рэферэндуму" суседзі паглядаюць на нас з пагардай. Маркую, ім проста пашчасціла, што над імі гісторыя не ладзіла такога эксперыменту, бо людзі паўсюль людзі і звычка — вялікая сіла. Дарэчы, тая акалічнасць, што пасля паразы камунізму ў шэрагу краін (не толькі СНД) па выніках дэмакратычных выбараў пры ўладзе была наменклатура, — красамоўнае таму сведчанне.

Калі думаеш пра будучыню Беларусі, дык можна ўявіць два варыянты развіцця падзей. Звяжаючы на згаданы вышэй побытавы прыклад, скажам так: альбо "муж нарэшце спаліць хату" і гэтым справакуе рашучы выступ (тых, хто пакуль маўчыць), альбо ў народа паступова пад уплывам вонкавых і ўнутраных абставін з'явяцца новыя, больш цывілізаваныя звычкі і стануць зразумелымі дагэтуль яшчэ нязвыклыя словы — Адраджэнне, Дэмакратыя, Незалежнасць.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# АБАРОНІМ БАЦЬКАЎШЧЫНУ!

ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСІ!

Не Вы вырашалі лёс сваёй дзяржавы, гістарычнай спадчыны, роднай мовы на нядаўнім прэзідэнцкім рэферэндуме. За кожнае з чатырох пытанняў станоўчы адказ далі крыху больш за 50 працэнтаў выбаршчыкаў, унесеных у спісы (а за змену гісторыка-дзяржаўных сімвалаў — менш 48 працэнтаў).

І гэта з улікам шматлікіх парушэнняў заканадаўства, бруднай паклёпніцкай хвалі ў адрас носьбітаў беларускай культуры, якая ў апошнія месяцы захліснула афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі. Пра гэта шмат гавораць замежныя назіральнікі, міжнародная супольнасць і дэмакратычная грамадскасць Беларусі.

А калі ўлічыць патэнцыяльныя, але нявыказаныя пакуль галасы людзей новага пакалення — нашых дзяцей, падлеткаў, якія ў беларускіх нацыянальных садках і школах адчулі смак роднага слова? Іх — мільёны! А хто пытаўся галасоў многіх пакаленняў нашых продкаў, якія аднымі з першых у Еўропе выдавалі кнігі на беларускай мове, стварылі унікальную духоўную і матэрыяльную культуру, заможную і вялікую дзяржаву, шырокавядомую ў свеце?

Хто запрашаў на ганебны рэферэндум мільёны ахвяр сталінізму і фашызму, іх ненароджаных дзяцей і ўнукаў? А яны маглі і быць нашымі з вамі сучаснікамі, і падалі б свой голас у абарону Бацькаўшчыны, яе святыняў, сваёй дзяржавы.

І вынік рэферэндуму быў бы іншы... Нас знявечылі дзесяцігоддзямі праклятай паняверкі, падвялі да рысы нацыянальна-дзяржаўнага самазабойства. А цяпер растапталі. Не без нашага, многіх з нас, удзелу.

Трэба цвёрда разважыць і зразумець, што не Расія, не рускі шматпакутны народ ставае перашкоды на шляху будаўніцтва беларускага дзяржаўнага дому. Грымучая сумесь, якая ствараецца ў Расіі з дзікунскага капіталізму, фашыстоўска-імперскіх палітычных структур, побытавай абывацельшчыны і вялікадзяржаўніцкіх настрояў, — вось што пагражае "узвраць" і расійскае і беларускае маладое грамадзянскае супольніцтва.

Што ж датычыць беларускай мовы — па выніках псеўдарэферэндуму яе статус не ўроўнены з рускай, якая панавала і пануе ва ўсіх галінах жыцця краіны. Вынікі антыканстытуцыйнага рэферэндуму паслужаць бруднай справе тых, хто хоча навек пахаваць мову нашага народа, якая мае тысячагадовую гісторыю.

Усе мы — беларусы, рускія, украінцы, палякі, татары, яўрэі, літоўцы і многія іншыя грамадзяне краіны — браты і сёстры, суайчыннікі. І наша беларуская мова — Ваша мова. Яна адна. І мы адны ў свеце. І няма нам іншай дарогі, як дарогі да Беларусі.

Навалач, якая бруднай пенай валіцца на Бацькаўшчыну, схлыне. Тое, што робіцца ў дачыненні да беларускага народа, да яго гісторыка-культурнай спадчыны, да Сцяга і Герба Дзяржавы, да агульнанародных багаццяў, да самой краіны і яе народа — гэта дзікунства, цемрашальства.

І яны думаюць, што прыйшоў іх час?! Марныя надзеі! А мы — цярпелі, і ячшэ нацярпімся. Гэта ненадоўга. Шмат каго бачыла наша шматпакутная Бацькаўшчына. І дзе яны цяпер? Усе — у паняверцы, у нябыце! А на сцягу краіны — такія, як Скарына, Каліноўскі, Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі...

Давайце набяром у грудзі паветра і ўздыхнём глыбей. Давайце з годнасцю і з гонарам вымавім родныя словы — Маці, Беларусь, Бацькаўшчына. Каб гэтыя словы жылі вечна. Давайце вышэй падымем нацыянальна-дзяржаўны, родны і адзіны Сцяг і наш гістарычны, сцверджаны ў стагоддзях Герб. Гэтым мы паслужым Радзіме. Давайце задумаемся над лёсам будучых выбараў і вынікамі новых нямаўных "прэзідэнцкіх" рэферэндумаў па ліквідацыі беларускай дзяржавы. Трэба сказаць сваё важкае слова пратэсту. Трэба схамянуцца — і абараніць Бацькаўшчыну. Гэта святы абавязак кожнага, каму Беларусь — маці.

**Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны**

# ШТО ВЫБІРАЦЬ БУДЗЕМ?

## ЗВАРОТ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Паважаныя бацькі і настаўнікі!

У сувязі з рэферэндумам сёлетні набор школьнікаў у першыя класы, відаць, будзе праводзіцца спецыфічным спосабам. Пры вызначэнні моўнага статуса школ органы адукацыі маюць намер абапірацца на выбар мовы навучання бацькамі. Звяртаем вашу ўвагу на наступныя акалічнасці.

1. Ва ўмовах эканамічнага хаосу і масавай пагарды да законаў права выбраць мову навучання цяжка забяспечыць на практыцы. Можна прадказаць, што інтарэсы беларускай моўнай супольнасці будуць парушацца, і мы будзем выбіраць школьную мову гэтаксама, як мы яе "выбіралі" дзесяць, дваццаць ці трыццаць гадоў назад. Многія замежныя навукоўцы лічаць, што свабодны выбар мовы навучання ў школе з'яўляецца "сродкам замацавання моўнага нераўнапраўя і выцяснення мінарытарнай мовы", г.зн. мовы, якая валодае меншай колькасцю функцый ("Вопросы языкознания", 1989, N 5, с.107). Але хіба за выцясненне беларускай мовы мы галасавалі на рэферэндуме?

2. Яшчэ некалькі гадоў таму назад у беларускіх гарадах не было ніводнага беларускага класа. Цяпер у рэспубліцы існуюць школы, малодшыя класы якіх вучацца на беларускай мове. Ліквідацыя беларускамоўнага статуса гэтых часткова беларускіх школ прывядзе да поўнага занападу сістэмы нацыянальнай адукацыі і адкіне нас у сітуацыю сярэдзіны 80-х гадоў. Але няўжо наша мэта — знішчэнне беларускамоўнай школы?

3. Інтэлектуальнае развіццё дзіцяці і ўзровень цывілізаванасці грамадства не звязаны непасрэдна з моваю навучання. Дзеці могуць нармальна развівацца, атрымліваючы адукацыю не на "сямейнай" мове; з другога боку, эканамічны дабрабыт большасці краін грунтуецца на рацыянальнай будове грамадства, а не на татальнай "далучанасці" да якой-небудзь сусветнай мовы. Не верце, што беларуская мова — перашкода на шляху выхаду з эканамічнага крызісу!

4. Цяперашняя пачатковая школа ў Беларусі пераважна арыентавана на выкладанне на беларускай мове, таму рэзкія змены ў моўным статусе школ могуць выклікаць крызісную сітуацыю, напрыклад, у забеспячэнні школьнымі падручнікамі. Няўжо мы хочам, каб нашы дзеці вучыліся "на пальцах", або па падручніках дзесяцігадовай даўнасці?

# НАША КУПАЛЬЛЕ



У цяні хараства беларускіх лясоў блукае мінулае.
Таямнічаю мрояй занурылася ў лета папараць-кветка.
Дзе яе зацьвітае любоў,
як здабыць сакрамант вечнай прыгажосьці?..

Нязьведаныя шляхі вядуць да Творцы ўсяго,
што ёсьць на зямлі і на небе.
Любоў — ад Яго найвялікшы нам дар.
Паспрабуй адшукаць у сабе гэты дар,
і ты зразумееш: шчасьце побач з табой.

# "ЗАМЯНІЦЕ МНЕ НАСТАЎНІКА",

## або ГІСТОРЫЯ АДНОЙ КАР'ЕРЫ

"САЙКОВСКИЙ Сергей. Ученик 9 "в" класса. Директору. Заявление. Меня, Сайковского Сергея, не устраивает учитель истории Полторжицкий, так как он неправильно оценивает учеников, плохо объясняет тему уроков и спрашивает не по домашним параграфам, а задает вопросы совсем на другую тему".

"Директору школы. Заявление. Я. Костенков Андрей, ученик 9 "а" класса, прошу вас заменить мне учителя истории Полторжицкого, так как он вообще не объясняет тему уроков, ставит незаслуженные оценки, обзывает нецензурными словами, рассказывает всякую чушь, при всем классе оскорбляет учителей и директора школы".

Гэтым дзвюм заявам, як і падобным іншым, у тым ліку калектыўнай, старанна сабраных у папцы дырэктара 110-й Мінскай сярэдняй школы Наталляй Уладзіміраўнай Ракевіч, папярэднічала здарэнне, якое і ў наш складаны час, калі, здаецца, ужо нікога нічым на здзівіш, успрымаецца як экстранеардынарнае.

11 лютага гэтага года нагаданы ў заявах вучняў настаўнік гісторыі Алег Мустафавіч Паўтаржыцкі быў жорстка збіты ў сценах роднай школы. Паводле сведчання судова-медыцынскай экспертызы, у пацярпеўшага былі выяўлены (цытую): "Ушиб грудной клетки слева, кровоподтеки и ссадины в области правой кисти, шеи, грудной клетки, левой голени и в совокупности относятся к категории легких телесных повреждений, повлекших кратковременное расстройство здоровья, для полного исхода (так у тэксце. — **М. З.**) которых потребовалось более 6, но менее 21 дня".

Для недасведчаных растлумачу, што вызначэнне судмедэкспертызай тэрміну, неабходнага для папраўкі здароўя ў выніку нанесеных траўм "более 6, но менее 21 дня" выходзіць за чыста медыцынскія рамкі, яно ўжо з галіны юрыспрудэнцыі і азначае, што па дзеяннях, у выніку якіх пацярпеламу нанесена такая шкода здароўю, можа быць узбуджана крымінальная справа па арт. 110 Крымінальнага кодэкса рэспублікі.

І яшчэ адзін дакумент, які, прызнаюся, і прымусіў мяне ўзяцца за пяро. Гэта пастанова народнага суда Кастрычніцкага раёна сталіцы за подпісам суддзі В. Бяляніна аб адміністрацыйным арышце А. Паўтаржыцкага тэрмінам на 5 сутак з даручэннем ажыццявіць гэты акт раённай міліцыі.

Каб адразу паставіць кропкі над "і", растлумачу, што судовая пастанова, пазначаная 11 мая г. г., як вынікае з яе прэамбулы, напраму звязана са здарэннем, апісаным вышэй.

Чытач заінтрыгаваны? Хто ўсе-такі ў той гісторыі аказаўся пацярпелым? Адназначна адкажу: Алег Мустафавіч Паўтаржыцкі. Чым жа тады выклікана з'яўленне судовай пастановы аб яго арышце, даведаўшыся пра якую настаўнік, па яго словах, вырашыў перайсці на паўлегальнае становішча — не начаваць дома, хавацца па знаёмых і г. д., бо разумеў, што сам факт арышту, колькі б ён ні працягваўся, паставіць крыж на яго педагагічнай кар'еры.

Падобныя справы патрабуюць скрупулёзнага журналісцкага даследавання, і перш, чым прыйсці да нейкіх высноў, я доўга гутарыў з суддзёй В. Бяляніным, дырэктарам 110-й школы Н. Ракевіч і іншымі настаўнікамі, намеснікам начальніка аддзела бяспекі Кастрычніцкага РАУС г. Мінска А. Рылікам і ўчастковым інспектарам А. Цішко, пракурорам раёна М. Сяміжонам, адказнымі работнікамі гарана і Кастрычніцкага РАНА А. Фраловай, А. Моравай і З. Папковіч, іншымі службовымі асобамі, што мелі тое ці іншае дачыненне да гэтай гісторыі.

Упершыню ж я пачуў пра яе з вуснаў самога Алега Мустафавіча Паўтаржыцкага, які прыйшоў да мяне ў рэдакцыю. Пачуў і не паверыў. Але спачатку — пра самога майго наведвальніка.

На выгляд яму — пад сорак. Прыкметна кранутыя сівізной валасы, чарнавокі засяроджаны твар, стамляючая суразмоўніка манера гаварыць доўга, увесь час спыняючыся на відавочных дробязях, якія яму, відаць, здаюцца вельмі значнымі. Першае, што ён спытаў, адкрыўшы дзверы кабінета, якім часам я валодаю, каб выслухаць яго. Я адказаў, што хай гэта яго не турбуе. Калі ж сеўшы на крэсла ён выняў кіпу папер і паклаў перад сабой, я зразумеў, што гэта ўсё надоўга. Ён падрабязна расказаў мне пра ўсе дзевяць гадоў свайго цярністага шляху на ніве педагогікі, і перада мной паўстаў чалавек з відавочна цяжкім характарам і, дарэчы, няпростай біяграфіяй. Пачаць з таго, што шлях яго да прафесіі школьнага настаўніка быў не зусім ардынарны. Да гэтага ён папрацаваў і вадзіцелем аўтобуса, і на будаўніцтве метро, у кінафікацыі, займаў нейкія іншыя далёкія ад школьнай педагогікі пасады. Але была яшчэ, гаворачы высокім стылем, неадольная любоў да кніг, асабліва кніг гістарычнай. Заўважым, рыса не вельмі характэрная для шафёрскай брацііі. Любоў гэта нарэшце матэрыялізавалася паступленнем на завочнае аддзяленне гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, якое Алег Мустафавіч скончыў у 1986 годзе, атрымаўшы дыплом і правы выкладаць гісторыю ў сярэдняй школе. Да гэтага ён ужо дзесяць гадоў быў у шэрагах КПСС і, атрымаўшы дыплом, накіраваўся прамой дарогай у райком партыі, каб, па існуючым тады правіле, атрымаць накіраванне ў школу. Так ён дзевяць год назад і апынуўся ў 110-й сярэдняй школе г. Мінска. І, заўважым, амаль адразу, па яго словах, стаў "притчей во языцех" не толькі ў родным педкалектыве, але і ў іншых установах, так або інакш звязаных з нашай слаўнай савецкай сістэмай народнай адукацыі — ад райкома партыі да гарана і РАНА.

Ці было гэта спецыфічнай рэакцыяй на з'яўленне ў сценах школы гэткага бунтара-адзіночкі, што не прызнае ніякіх аўтарытэтаў, дэкларуе барацьбу з усталяванай у савецкай школе коснасцю, нізкай педагагічнай культурай, паказухай і іншымі падобнымі "прелестями"? І так, і не. Не будзем забываць, што гэта быў час, калі ў краіне дзьмуў свежы вецер перамен, звязаных з гарбачоўскай перабудовай, змен, якія набылі як мноства прыхільнікаў, так і непрыхаваных непрыяцеляў. З гэтымі непрыяцелямі ў блізкай цяпер яму школьнай сферы і пачаў змагацца малады настаўнік. Ён доўга расказваў мне пра гэтае сваё змаганне, прыводзіў у пацвярджэнне розныя факты і дэталі. Дзеля справядлівасці адзначым, што некаторыя з іх потым знайшлі ўскоснае пацвярджэнне, хоць з тлумачыліся па-іншаму. Так, у час маёй гутаркі з дырэктарам школы Н. Ракевіч яна, нанізваючы адзін на адзін кампрамат на Паўтаржыцкага, успомніць і пра тое, як ён аднойчы хацеў сарваць раённую традыцыйную жніВеньскую настаўніцкую канферэнцыю, хоць я схільны верыць інтэрпрэтацыі гэтага здарэння, пачутую з вуснаў Алега Мустафавіча. Ён сапраўды нарабіў, як цяпер кажуць, "шораху" на канферэнцыі, што ішла па пракладзенай дзесяцігоддзямі наезджанай каляіне. Не будучы ў спісах выступоўцаў, Паўтаржыцкі самачынна захапіўшы трыбуну, каменя на камені не пакінуў ад раённага партыйнага і "наробразовского" начальства, што пасела ў прэзідыуме, абвінавацўшы яго ў кансерватызме, нежаданні ісці ў нагу з часам, старых падыходах да арганізацыі школьнай справы і да т. п.

Пасля той злашчаснай канферэнцыі з ім вельмі груба, па словах А. Паўтаржыцкага, пагутарыла нядаўна прызначаная дырэктарам школы Наталля Уладзіміраўна Ракевіч, паведаміла яму, што ім вельмі незадаволены ў райкоме партыі. Ён адказаў, што гэта яго вельмі мала цікавіць, што ён прывык гаварыць тое, што думае.

Потым былі яшчэ сутычкі з дырэктарам, якія перараслі ў непрыхаваную варожасць. Ну, і як гэта звычайна бывае, падзяліўся па сваіх сімпатыях і антыпатыях і педкалектыў. Прычым, пераважная большасць прыняла бок дырэктара, што зусім зразумела, калі мець на ўвазе залежнасць кожнага настаўніка ад школьнага начальства. Але і не толькі з-за гэтага. Калег Алега Мустафавіча раздражнялі некаторыя ўласцівасці яго характару: самаўпэўненасць, тое, што ён высокай думкі аб сабе (дарэчы, гэты "кампрамат" прыведзены ў адпраўленай у суд характарыстыцы, аўтары якой, відаць, лічаць, што ўзорам для пераймання з'яўляецца настаўнік, які трымаецца нізкай аб сабе думкі), што яму "больш, чым усім трэба", што вечна высоўваецца з нейкімі сваімі ініцыятывамі, адным словам, не такі, як усе. Адзін час, напрыклад, Алег Мустафавіч насіўся з ідэяй рэфармавання школы. Ён нават распрацаваў новую сістэму кіравання школьным працэсам, якая ўяўляла сабой нешта накшталт школьнага парламента на чале з саветам, у які б уваходзілі прадстаўнікі педкалектыву, мясцовых грамадскіх арганізацый, вучнёўства. Праўда, "парламент" гэты, як і належыць парламенту, рэзка абмяжоўваў правы кіраўніка, у дадзеным выпадку, кіраўніка школы, што было расцэнена Наталляй Уладзіміраўнай як падкоп пад яе ўласнае існаванне, і быў сустрэты ёю ў штыкі, як, дарэчы, і большасцю настаўнікаў. Як арыгінальнічанне, імкненне завяваць танны аўтарытэт у вучняў была расцэнена калегамі Паўтаржыцкага і яго манера звяртацца да школьнікаў, нават да пяцікласнікаў, на "вы". І яшчэ, і яшчэ, і яшчэ з такога раду, што рабіла Алега Мустафавіча ў педкалектыве гэткай белай варонай.

Шчыра кажучы, на пачатку майго з ім знаёмства мне нават падалося, што лёс звёў мяне з гэткім, мясцовага разліву, настаўнікам гісторыі Мельнікавым, героем аднаго з лепшых кінафільмаў аб школе "Дажывём да панядзелка". Помніце яго ў таленавітым выкананні Вячаслава Ціханава — тонкага, цнатлівага і ў той жа час нязломнага змагара з коснасцю, казёншчынай, дагматызмам, з яго ўменнем бачыць у вучнях не бязлікую масу, а амаль ужо дарослых людзей з іх непаўторным успрыманнем дабра і зла, праўды і крывадушша?

Ды чым больш углядаўся ў Алега Мустафавіча, тым больш разумеў, што такое параўнанне не больш, як журналісцкая фантазія. І не таму, што ў жыцці бывае ўсё больш складана, шматмерна, чым у самым таленавітым "кіне", а таму, што не мог уявіць сабе таго ж Мельнікава, каб ён трымаў кіпу копій з розных заяў, скарг, пісьмаў, адасланых у розныя інстанцыі, што дэманстраваў перада мной Алег Мустафавіч.

Змаганне змаганнем, але ж і пра ўласны гонар нельга забываць. Вось ужо каторы год А. Паўтаржыцкі і дырэктар школы Н. Ракевіч збіраюць адзін на аднаго кампраматы. Наталлі Уладзіміраўне рабіць гэта лягчэй, бо ёй дапамагаюць у гэтай справе многія настаўнікі і... вучні. Так, вучні, якія, фактычна, уцягнуты ў канфлікт, што з'яўляецца ва ўсёй гэтай гісторыі ці не самым агідным. Тыя ж вучнёўскія заявы, якія з гонарам дэманстравала мне Н. Ракевіч, не што іншае, як сабраны на А. Паўтаржыцкага кампрамат. Я не стаў высвятляць прыроду з'яўлення гэтых заяў-даносаў, палічыў неэтычным, калі хочаце, — непедагагічным гутарыць з падлеткамі на гэтую тэму, распытваць, хто іх навучыў гэта рабіць і да т. п., хоць, празнаюся, Алег Мустафавіч называў мне настаўнікаў, якія нацэльвалі вучняў на напісанне згаданых "сачыненняў". Не стаў я высвятляць, па той жа прычыне, і методыку правядзення "ананімных" апытанняў вучняў на тэму, які настаўнік ім падабаецца і за што, а які — не вельмі. Чытаў я гэтыя лісткі, спісаныя вучнёўскімі почыркамі, і не мог не заўважыць, самай любімай настаўніцай амаль ва ўсіх адказах названа настаўніца хіміі, г. зн. сама Наталля Уладзіміраўна. І калі я звярнуў на гэта яе ўвагу, без ценю сарамлівасці адказала: "А я сапраўды вельмі добрая настаўніца". Так што высокай аб сабе думкі не толькі Алег Мустафавіч.

Але вярнуся да тых апытальных лісткоў. Як, відаць, ужо здагадаўся чытач, самым нялюбым настаўнікам названы ў іх... ну, вядома ж, А. Паўтаржыцкі.

Я спытаў у дырэктара школы, ці не сорамна ёй збіраць і захоўваць падобныя вучнёўскі "сачыненні"? Яна адказала, што робіць гэта на ўсякі выпадак, бо ад Паўтаржыцкага ўсяго можна чакаць — пры неабходнасці пойдуць у ход і гэтыя сведчанні. "Каб вы ведалі, якія агідныя гаворыць ён у класе пра мяне, — сказала Наталля Уладзіміраўна і, убачыўшы, што я не гару жаданнем развіваць гэтую тэму, дадала, — можна наогул звар'яцець, даведаўшыся, пра што ён гаворыць з вучнямі". "Пра што?" — усё-такі пацікавіўся я. "Пра што? — перапытала Ракевіч. — Пра секс! І гэта з дзевяцікласнікамі! Фактычна яшчэ з дзецьмі!"

Бедная Наталля Уладзіміраўна, яна і не ведае, што, паводле сацыялагічных апытанняў, якія рэгулярна праводзяцца ў краіне, пераважная большасць падлеткаў ведае пра секс амаль усё, што можна пра яго ведаць, і не толькі ў тэарэтычным плане...

І яшчэ колькі слоў пра тыя вучнёўскія заявы, якія не на жарт засмуцілі і ўстрывожылі мяне. Аказалася, што дарэмна я ўсё-такі ўспрымаю, аказалася, што я раблю з мухі слана. Ва ўсякім разе начальнік аддзела агульнай сярэдняй адукацыі Мінскага гарана А. Фралова, намеснік загадчыка Кастрычніцкага РАНА А. Морава і арганізатара гэтага РАНА З. Папковіч, з якімі я абмяняўся тэлефоннымі размовамі на гэтую тэму, запэўнілі мяне, што падобныя заявы вучняў з патрабаваннем уздзейнічаць на настаўнікаў, якія, на іх думку, дрэнна прафесійна падрыхтаваныя, не супярэчаць сучаснай педагогіцы. "У вас састарэлыя ўяўленні, — сказала адна з іх. — Мы праводзім дэмакратызацыю школы, а гэта прадугледжвае забеспячэнне шырокіх правоў вучняў, у тым ліку і права аспрэчваць справядлівасць выстаўленых ім ацэнак".

Вось такая, з дазволу сказаць, дэмакратыя, перагворaная ў абсурд. Ды каб жа толькі ў галіне школьнай адукацыі! Ці не таму сёння аказаліся скампраметаванымі самі паняцці-словы **дэмакрат, дэмакратыя**, якія з вуснаў многіх простых людзей гучаць як абраза.

Але не буду паглыбляцца ў невядомыя мне таямніцы сучаснай педагогікі. Мо сапраўды гэта добра, калі гультай і абібок можа аспрэчваць правамернасць выстаўленага яму ў дзённіку "кала", патрабаваць, каб яму замянілі настаўніка. Гэта, па думцы сучасных Песталоцці, відаць, выхоўвае ў яго пачуццё адказнасці. Адным словам, новая школа, новыя вучні. Так і хочацца ўсклікнуць пушкінскае: "Здравствуй, племя младое, незнакомое!"

Акурат, калі пісаліся гэтыя радкі, на вочы трапіў адзін з апошніх нумароў "Народнай газеты", а ў ім — невялікая нататка пра тое, як у Брэсце адзначаўся дзень апошняга званка. Гарадскі парк, па словах карэспандэнта, "нагадваў антычныя вакханаліі, ледзь трымаючыся на нагах, юнакі-выпускнікі волакам цягнулі сваіх апрануных у белыя фартухі сяброўак, якія ўжо не маглі перасоўвацца сваім ходам... У выніку ў райаддзел міліцыі было дастаўлена дваццаць п'яных выпускнікоў, у іх ліку пяць дзяўчат..."

На маіх тэлефонных суразмоўніц я натрапіў невыпадкова, — іх прозвішчы падказала мне Н. Ракевіч, падкрэсліўшы, што яны правяралі скаргі Алега Мустафавіча і ведаюць яму цану. Пры размове з педагагічнымі дамамі сапраўды высветлілася, што іх ацэнкі спадара Паўтаржыцкага не адрозніваюцца ад прапанаваных дырэктарам школы. Я пацікавіўся іх думкай наконт збіцця А. Паўтаржыцкага ў сценах школы, фактычна, у час выканання ім службовых абавязкаў. Так, яны пра гэта ведаюць, але як можна было зразумець з іх адказаў, гэтай справай павінны займацца праваахоўныя органы, а не яны.

*(Працяг на стар. 12)*

## ТРАВЕНЬСКІ "ПЕРШАЦВЕТ"

**Паэтычны сшытак прадстаўляюць творы А. Садко, Л. Сіманёнак, А. Ліпеня, Ю. Верамейкі, В. Жыбуля, Т. Талерчык, В. Слінко, А. Шэіна, М. Касцялецкай, А. Брусевіча, Н. Шкурдзь, А. Ганчука, Т. Барысюк, С. Гавенкі. З імпрэсіямі, навеламі, апавяданнямі, выступаюць С. Фрадова, І. Сударава, Н. Кулакова, М. Казун, казкай "Прыгоды ката Ваські" З. Сімагасціцкая.**

**Хутка год, як заўчасна пайшоў з жыцця У. Рубанаў. Чым жыў ён апошнія месяцы, бачна з яго дзённікавых запісаў "Аўра памяці".**

**У "Гасцёўні" вершамі прадстаўлены А. Лойка, А. Коршак, М. Машара, П. Панчанка, А. Астрэйка, публіцыстычным роздумам "Слова пра Вялікую Айчынную" — У. Паўлаў.**

**А. Марціновіч ("Вяртанне праз сцвярджэнне") дзеліцца ўражаннямі ад кнігі А. Карлюкевіча "Вяртанне да... Беларусі". С. Патаранскі рэцэнзуе кнігу А. Шушко "Выток і прычасце" ("Паэт — ён нечаканасць...). П. Пруднікаў ("Паэт-гаротнік") згадвае З. Біралу, тут жа прапануюцца некалькі яго твораў. Вобразы і сюжэты валачобных песень у цэнтры ўвагі А. Багамолавай ("Вясна красна на ўвесь свет!"). З вершаванымі гумарэскамі выступае А. Кліменка.**

## ПРЭМ'ЕРА... У ХРАМЕ

**Дзве сотні гадоў стаіць у Слуцку драўляны Свята-Міхайлаўскі праваслаўны сабор. Але падзея такога кшталту адбывалася тут упершыню: раніішняе нядзельнае набажэнства праходзіла з удзелам прафесійнага хору, які спяваў музыку сучаснага прафесійнага беларускага кампазітара...**

**А калі канкрэтна — у Слуцк завітаў малады і ўжо знаны Мінскі абласны камерны хор "Sonorus", якім кіруе Аляксей Шут. Як і было дамоўлена з настаяцелем сабора протаіерэем айцом Міхаілам, хор спяваў падчас ранішняй літургіі, а гучаў ужо вядомы мінскім слухачам новы твор Алега Залётнева на кананічныя тэксты — "Літургія св. Іаана Златавуста". Твор прагучаў цалкам, за выключэннем двух нумароў, выкананне якіх строга абмежавана праваслаўным календарам (прынамсі, хор, які ўслаўляе Уваскрэсенне Хрыстова). Некаторыя нумары, як было дамоўлена загадзя, "Sonorus" праспяваў разам з хорам слуцкага Свята-Міхайлаўскага сабора. Набажэнства атрымалася сапраўды святочным, і ў гонар хору і аўтара "Літургіі" айцец Міхаіл даў нядзельны абед.**

**Можна сказаць, за адным разам у гарадскім Палацы культуры адбыўся канцэрт хору "Sonorus", у праграме якога, апроч "Літургіі" Залётнева, былі й фрагменты з "Усяночнай" Сяргея Бельцюкова. І яшчэ: нованароджаны слуцкі тэатр пластычнай драмы паказаў прэм'еру спектакля Антаніны Бялькевіч з музыкай Алега Залётнева — "І перапрошаны, і распнуты, і — ускрос".**

**С. ВЕТКА**

## АДНЫ ГАЗЕТЫ ЗАТРЫМЛІВАЮЦЦА, ДРУГІЯ — ВЫХОДЗЯЦЬ...

**Днямі ў кіёсках з'явіўся першы нумар новай газеты. Называецца яна "Кніга і мы", а заснавальнікам штотыднёвіка з'яўляецца Мінскае гарадское прадпрыемства "Белсаюздрук". У газеце змешчаны розныя матэрыялы, якія тычацца выдання і распаўсюджвання кнігі. А гэтыя праблемы на сённяшні дзень як ніколі ўзаемазвязаны. Прынамсі, падобныя клопаты прасякнуты выступленні галоўнага рэдактара выдавецтва "Юнацтва" М. Пазнякова "Дзеці без кніг — дзяржава без будучыні" і галоўнага рэдактара выдавецтва "Полымя" Л. Кругловай "Нашы клопаты пра кнігу". Газету віншуе з выхадам першага нумара дырэктар выдавецтва "Юнацтва", віцэ-прэзідэнт Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў В. Лукша, слова на дарогу прамаўляе начальнік "Белсаюздруку" Л. Шаблоўская.**

**Сярод матэрыялаў нумара нямала і займальных, што тычацца самых розных фактаў, звязаных з кнігамі, у тым ліку і вядомымі.**

*Часопіс у мае*

# "ПРАЎДЫ ВЕЛЬМІ ХАЧУ"

У жыцці, як вядома, даўно прыйшоў час прозы. Суровай, драматычнай і, хочаш таго ці працівішся гэтаму, а ў нечым, здаецца, і беспрасветнай. Канечне, можна па-ранейшаму спадзявацца на нешта лепшае, верыць, як мы любім гаварыць, у здаровыя сілы народа, ды адкуль гэтым сілам узяцца, калі народу з кожным — не годам, а днём — усё цяжэй дыхаць у прамым і пераносным сэнсе. Аднак, здаецца, час прозы наступае і ў літаратуры. Менавіта яна паступова пачынае разумець, што ёй, як і публіцыстыцы (не спаборнічаючы з апошняй, а суседнічаючы), застаецца несці галоўную службу. Паэзія, канечне, сваё слова працягвае гаварыць — разважліва і ўпэўнена, але, тым не менш, яна ў чымсьці пачынае і паўтарацца. Гэта адбываецца тады, калі завельмі ж мусіруюцца адны і тыя ж матывы. Назіраецца нешта адваротнае таму, што бачылася пры пананаванні афіцыйнай ідэалогіі, пры самай кіруючай... Але ж нацыянальная падсветка тады, калі яна не падмацавана адпаведным майстэрствам аўтара, яшчэ нічога не значыць. Як у бубен ні бі, а з чароўнай скрыпкай яго ніколі не параўнаеш...

Але — пра прозу. З майскіх публікацый я вылучыў бы творы трох аўтараў — двух у "Полымі" і аднаго — у "Маладосці". А паколькі "Полымя" ўсё ж старэйшына сярод літаратурных перыёдыкі, то з "Полымя" і пачну. А з-за павагі да Васіля Уладзіміравіча пачну гаворку з яго апавядання, хоць яны, за выключэннем аднаго — "Сцяна", узнаўляюць падзеі Вялікай Айчыннай вайны і з тэмай сучаснасці як быццам не звязаны.

Так, як быццам... Бо, калі зірнуць больш пільна, капнуць, як кажуць, глыбей, дык высветліцца, што і апавяданні В.Быкава — таксама пра сучаснасць. Пра сучаснасць у тым сэнсе, што яны дапамагаюць стаць нам куды больш відушчымі (і празорлівымі) у разуменні самай страшнай вайны ў гісторыі чалавецтва.

Наўрад ці магло б трапіць у друк некалькі гадоў назад апавяданне "Зенітчыца", гераіні якога з'яўляюцца камандзір батарэі Калашнік і, як бачна з назвы, дзяўчына, адна з няммогіх, хто разам з мужчынамі ўзяў на свае кволыя плечы цяжар вайны. Ніна, так завуць дзяўчыну, паспела спазнаць радасць першага кахання да яго ж, Калашніка. А сам ён ва ўсю адчуў, што такое суровыя ваенныя абставіны. Вось і цяпер батарэя разгромлена: "Ад усіх зенітчыкаў учора засталося пяцёра, а пасля, як яны перабраліся пад агнём цераз шашу, апынуліся ўдваіх. Яна і камбат. Дзе астатнія, мабыць, ужо не дазнаюцца".

Ніна па-свойму ставіцца да таго, што адбылося. Безумоўна, перажывае, але — "ды і што было гараваць па батарэі, калі за тыдзень увачавідкі ляснула армія — немцы зашчамілі танкавымі абцугамі, ды і перабілі па частках".

Сам жа Калашнік да таго непапраўнага, што адбылося, адносіцца інакш. Таксама перажывае, таксама бядуе, аднак і разумее, што выхад да сваіх, калі гэта ўдасца ажыццявіць, наўрад ці прынясе яму асаблівую радасць, бо будзе дорага каштаваць. Справа ў тым, што "камбат Калашнік выходзіў ужо з трэцяга акружэння і што-колечы разумеў у тым". Пасля першага "месяц праседзеў на фільтрацыі — пісаў тлумачэнні, адказваў на пытанні ў асобым аддзеле, запаўняў анкеты. Неяк, праўда, абышлося, хоць падазравалі нямала, асабліва наконт батарэі. Быццам ён яе кінуў. Добра, знайшоўся сведка, маёр са штаба арміі, які пацвердзіў усё, што камбат напісаў у сваім самым першым паказанні. Паверылі, зноў паслалі на батарэю, праваяваў у якой роўна месяц, і зноў — акружэнне, разгром". Гэтым разам справа была афармлена на трыбунал, але да самага страшнага, на шчасце, не дайшло: "штосьці там у іх перамянілася, ці, можа, справа павярнула ў іншы бок, і яго тэрмінова накіравалі прымаць батарэю на пераправе, што засталася без камандзіра".

І вось — трэці разгром. Наперадзе, усё ж, здаецца, свае. Калашнік здагадваецца, не можа не здагадвацца, як яны сустрэнуць яго паведамленне аб трэцім разгроме батарэі:

"— Непараненым туды выходзіць нельга, — сказаў ён.

— Як?

— А так?

— Не ведаеш, што? Хаця ты першы раз... Слухай! Во табе аўтамат! — перш чым перадаць ёй ППШ, ён шчоўкнуў пераводчыкам, ставячы аўтамат на адзіночныя выстралы. — Трымай. Пацэліш мне ў руку і стрэль".

Зіна пры гэтым ніяк не можа зразумець, што і да чаго, а Калашнік "патрабавальна чакаў ля земляной сцяны капаніра", "выраз яго цвярдога чарнявага твару быў, як заўжды: рашучы і строгі". Калашнік чакаў, а Зіна... Не, не адразу ўсё дайшло да яе, ды не магло не дайсці: "у ёй паднімалася ўнутры штось чорнае і благое, а ў думках стукала адно толькі слова з д р а д а, з д р а д а". Калашнік і здагадацца не мог, што Зіна "саўганула пальцам металічны шпянёк на аўтаматычны агонь". Прагучала чарга...

Сюжэт, як кажуць, не для слабанервовых. Ды і ў іншых апавяданнях ("Палкаводзец", "Палітрук Каламіец", "Кацюша") у аснову пакладзены сюжэты, ад знаёмства з якімі халодзіць нутро. Такая яна — быкаўская праўда вайны! Суровая, бескампрамісная і патрэбная нам, каб мы ведалі ўсё пра тое, што адбывалася паўстагоддзя назад. А ведаючы гэта, успрымаючы належным чынам, яшчэ больш задумваліся, наколькі жудаснае само паняцце — цана Перамогі. Бо цана гэтая — мільёны ахвяр...

Ёсць у В.Быкава і апавяданні ("Пагорак", "Падоранае жыццё"), сюжэты якіх, я б сказаў, больш "спакойныя", ды гэтаксама аўтарам высвечаны тыя бакі вайны, якія доўгі час абыходзіліся ўвагай. Што да апавядання "Сцяна", дык у ім В.Быкаў памайстэрску раскрыў прагу да волі таго, хто апынуўся за кратамі. Дзень за днём, тыдзень за тыднем, месяц за месяцам чалавек робіць падкоп, каб выбрацца на волю. і вось, здавалася б, наперадзе воля. Ды спадзяванні аказаліся марнымі. Апынуўся ён у тым жа турэмным двары: "Над ім у змрочнай шэрані неба высіўся знаёмы сілуэт шыбеніцы, амаль над самай галавой невысока звісала вяроўка-пятля. Над ёй быў збудаваны драўляны падмостак, на які ён і наткнуўся ў змроку. Выйсця адсюль не было".

Лаканічна, набліжаючыся да дакумента, пачынае сваю новую аповесць "Вёска" А.Федарэнка: "Антона Васкевіча выгналі з інстытута ў канцы 1990 года, перад самай зімовай сесіяй". Пратакольна дакладна зафіксавана тое, што адбылося: "Запрошаны, Васкевіч пасядзеў у прыёмнай рэктара хвілінак 10—15, потым з прыёмнай, не гледзячы на яго, выйшлі адзін за адным куратар групы, прафорг, парторг (? — не быў ніколі Васкевіч у партыі і быць не збіраўся), камсорг, камендант інтэрната, прарэктар па гаспадарчай частцы і апошняя, дэканша, таксама чамусьці адводзячы вочы, спынілася перад ім і строгім голасам аб'явіла, што з гэтага дня ён адлічаны з другога курса сталічнай ВНУ. Потым дэканша падрабязна і даходліва растлумачыла, як і што цяпер Васкевічу трэба рабіць, дзе браць абходны ліст, куды потым здаваць, як і калі выпісацца з інтэрната".

Аднак гэта толькі пачатак твора, традыцыйная экспазіцыя да таго галоўнага, што адбудзецца затым. У сэнсе сюжэтнай адметнасці, як быццам, нічога асаблівага. Вернецца Васкевіч у родную вёску, сцерпіць папрокі маці, уладкуецца на працу ў бібліятэку... Тым не менш месяцы, праведзеныя ў правінцыі, зробяць у ім сапраўдны пераварот. І пераварот гэты А.Федарэнка паказвае так падрабязна, што адчуваеш кожны зрух душы Васкевіча. Прыехаўшы ў вёску звычайным рамантычным юнаком, ён вяртаецца назад у інстытут мужчынам, які разумее, наколькі гэты рамантызм далёка ад паўсядзённага вясковага жыцця і разам з тым перакананы — ні ў якім разе нельга адступаць ад ранейшых поглядаў.

Да такой высновы прыходзіць той, хто спачатку сябе інакш, як "пакутнікам за ідэю", не ўспрымаў. І была падстава меркаваць так. Хоць афіцыйна і тлумачылася выключэнне Васкевіча з інстытута як за п'янства, ні для каго сакрэтам не з'яўлялася, што яго пакаралі за беларускасць. Пасяліўся быў страх, што і тут, у вёсцы, адданыя людзі не адстануць, не даруюць вальналюбства. Але пераадолеў яго. Куды цяжэй (і патрэбней!), аднак, было прайсці праз іншае расчараванне. Пра гэта Васкевіч згадвае і ў сваіх дзённікавых запісах: "Некалі зімою гаварыў матцы: "Я пастрадаў за тое, што люблю вас, вашу мову, звычкі...", казаў і сам верыў, бо яшчэ Менск з галавы не выветрыўся. Добра любіць на адлегласці, едучы ў метро, п'ючы ў інтэрнаце віно ці седзячы на лекцыі ў будыніне ў цэнтры Менска... А тут?"

Ды ці любяць яны самі сябе, гэтую мову сваю, звычкі?! Самыя тыповыя іхнія пра сябе выказванні: "Язык ні польскі, ні конскі", "Гаруем, гаруем, невядома на якога чорта, так прапала жызнь — цьфу!" А яшчэ Васкевіч перажыў расчараванне, што колішнія сябры, якія засталіся ў Мінску, па сутнасці пра яго забыліся. Хіба адзін Алесь Рамановіч праз колькі часу наведаўся, ды і той, як зразумеў Антон, па-ранейшаму знаходзіцца ў далёкім ад рэальнасці свеце. Прынамсі, так падаецца Васкевічу, хто на ўласным гарбе, як кажуць, адчуў, як лёгка нешта дэклараваць і як цяжка праводзіць яго ў жыццё.

"Праўды вельмі хачу" — гэта ўжо як крык адчаю. І адначасова крык упэўненасці, што менавіта з гэтага, а не іншага моманту нешта палепшыцца, стане на сваё месца. Да такой высновы Васкевіч прыйшоў, звярнуўшыся да Бога, наведаўшы храм. І падмацаваўся ў правільнасці сваіх высноў, калі ўбачыў, як колішнія камуністы, адчуўшы перамены ў грамадстве пасля жнівеньскіх падзей 1991 года, хутка памянялі свае колішнія погляды.

Наконт наведвання храма, то, па-мойму, у дадзеным выпадку А.Федарэнка зрабіў так, як многія пісьменнікі, якія хочуць пасучаснаму маральна ачысціць свайго героя. Але ж А.Федарэнка ўмее рабіць, як многія і многія рабіць не могуць. Таму хацелася б, каб ён гэтым кіраваўся і надалей, не даючы сабе палёгкі.

Аўтару ўдаецца саўладаць з багатым

# КУЗЬМА ЧОРНЫ — ЦЭЛЫ СВЕТ

24 чэрвеня Кузьму Чорнаму магло б споўніцца 95 год. Хаця, разважыўшы, нават пры самых спрыяльных абставінах рэдка які чалавек дажывае да такога паважанага ўзросту. Яму ж, К.Чорнаму, як вядома, было адпушчана і куды меней. Не стала Мікалая Карлавіча 22 лістапада 1944 года. Пайшоў з жыцця, як кажуць, на самым узлёце. На творчым узлёце! Тым не менш многае паспеў ажыццявіць, здзейсніць. Бо гэта быў не проста талент, а талент, Богам дадзены. Таму К.Чорны не толькі пісаў, а і жыў задумамі, якіх магло б хапіць не аднаму мастаку слова. А ён на іншых не спадзяваўся, ён сам хацеў усё зрабіць. І нават тады, калі здароўе пагоршылася, не выпускаў пяро з аслаблых рук. Спяшаўся, разумеючы, што часу адпушчана яму няшмат. Быў упэўнены: "Чалавек жыве на свеце вельмі мала, чалавечае жыццё вельмі кароткае, і чалавек не паспявае зрабіць тое вялікае, што мог бы зрабіць".

Але на тое ён і чалавек, каб, нягледзячы ні на што, не выпускаць з рук крылы свае мары. На тое ён і чалавек, каб працаваць да змогі, каб рабіць, здавалася б, немагчымае. Такім ЧАЛАВЕКАМ і быў К.Чорны — адзін з найвыдатнейшых нашых сучаснікаў і адзін з самых цудоўных беларускіх пісьменнікаў. Пра яго напісана ўжо не адна кніга і не адна дысертацыя абаронена. Пра яго, несумненна, яшчэ з'явіцца шмат кніг і шмат дысертацый — кандыдацкіх і доктарскіх. Бо К.Чорны — гэта цэлы свет. Той агромністы свет, уваходзячы ў які, кожны з нас пачынае панова глядзець і на самога сябе, на свае ўчынкі. Але адначасна ўзнікае і настойлівае, моцнае жаданне разабрацца ў іншых людзях, зразумець свой народ на лёсавызначальных і адначасова віхурных паўстанках часу.

А менавіта гэтым жаданнем і напоўнены шматлікія творы вялікага Майстра. Іншая справа, што яны, здавалася б, даўно па-сапраўднаму прачытаныя, ацэненыя, сёння патрабуюць іншай ацэнкі, іншага прачытання. І нічога дзіўнага ў гэтым няма. К.Чорны, як і кожны творца, жыў у свой час. Цяпер жа — новы час. І калі мы нешта ў творчасці Мікалая Карлавіча бачым інакш, чым раней, у гэтым лагічная заканамернасць і апраўданасць. Бо на тое яна і класіка (а наўрад ці хто сумняваецца, што проза К.Чорнага і ёсць класіка — жывая, паўнакроўная!), каб не заставацца чымсьці аморфным, застылым, а заўсёды знаходзіцца ў руху. У руху да чытача, у руху да надзённых праблем рэчаіснасці.

ЛІМ
ЧАСАПІС

## ІВАН ЧЫГРЫНАЎ — ГАНАРОВЫ ДОКТАР

**Ганаровы доктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Гэтую навучальную ўстанову Іван Чыгрынаў, як вядома, скончыў у 1957 годзе. Спачатку ў навуку падаўся, ды перамагла літаратура. І настолькі плённа працаваў і працуе ў ёй, што выкладчыкі БДУ звярнулі на яго ўвагу. Нядаўна вучоны савет універсітэта прысвоіў народнаму пісьменніку Беларусі І. Чыгрынаву званне ганаровага доктара БДУ. Як сказана ў дыпломе — за выдатныя дасягненні ў літаратуры і асабістыя заслугі ў развіцці беларускай культуры.**

## СЕМІНАР ТВОРЧАЙ МОЛАДЗІ

**На пачатку чэрвеня ў Лагойску адбыўся двухдзённы семінар маладых паэтаў Мінскай вобласці. Гэта ўжо другая такая сустрэча пачаткоўцаў, якую арганізавала Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна сумесна з мясцовымі ўладамі і Саюзам пісьменнікаў. На семінары прысутнічала больш за сорак маладых паэтаў — людзей розных узростаў і розных прафесій. Усіх іх, вядома, прывяла сюды вялікая закаханасць у беларускую паэзію, жаданне прачытаць свае вершы сябрам, пачуць ацэнку і заўвагі старэйшых таварышаў па пяры. І яны, маладыя паэты Міншчыны, атрымалі такую выдатную магчымасць: пісьменнікі Сяргей Законнікаў, Алесь Пісьмянкоў, Анатоль Зэкаў, Яўген Каршукоў і іншыя правялі не адну гадзіну са сваімі маладымі паплечнікамі ў літаратурнай справе.**

**Да ўсяго варта дадаць, што ўдзельнікі семінара наведалі купалаўскія мясціны на Лагойшчыне, сустрэліся з калектывамі мастацкай самадзейнасці, працаўнікамі раёна.**

**Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна і ўпраўленне культуры Мінскага аблвыканкама падрыхтавалі і выпусцілі зборнік лепшых вершаў маладых паэтаў вобласці — "Нас слова Купалы да творчасці кліча".**

**Я. ІВАНОЎ**

## "МЫ З ВАМІ, ГЕРОІ..."



**Выстаўка "Душою і сэрцам мы з вамі, героі", прысвечаная 50-годдзю Вялікай Перамогі, працуе ў Літаратурным музеі Якуба Коласа. На ёй прадстаўлены малавядомыя лісты народнага песняра да М. Лынькова, П. Броўкі, С. Гарадзецкага, напісаныя на пачатку вайны, а таксама рэдкія фотадакументы.**

**Упершыню экспануюцца жывапісныя і графічныя работы беларускіх мастакоў Л. Рана, З. Паўлоўскага, Я. Рама/оўскага, А. Зайцава і іншых. Можна пазнаёміцца таксама з партрэтам Я. Коласа, выкананым алоўкам паэтам С. Гарадзецкім. Другі партрэт песняра зроблены Т. Жырмунскай 3 лістапада 1942 года ў дзень нараджэння Кастуся Міхайлавіча.**

**На адкрыцці выстаўкі выступілі пісьменнікі П. Прыходзька, І. Кудраўцаў, М. Татур. Экскурсію праводзіць супрацоўнік музея Г. Зайцава.**

*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

## НОВУЮ СЕРЫЮ

**распачало выдавецтва "Мастацкая літаратура". Называецца яна "Бібліятэка беларускай класікі" і, як бачна з назвы, ставіць за мэту знаёмства шырокага чытача з найбольш значнымі творамі, напісанымі літаратарамі ў розны час. Адной з першых кніг у згаданай бібліятэцы стаў аднатомнік народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова "Паміж наступным і былым" (укладанне і прадмова В. Куляшовай). Чытач атрымаў магчымасць пазнаёміцца з такімі выдатнымі паэмамі А. Куляшова, як "Хамуціус", "Варшаўскі шлях", "Далёка да акіяна" і іншымі. Шырока прадстаўлена і лірыка. Прынамсі, змешчаны лепшыя вершы са зборнікаў "Сасна і бяроза" і "Хуткасць", якія ў свой час засведчылі сталасць таленту паэта і адначасова пастаянную маладосць яго паэзіі.**

Паэзія

Людміла ПАЎЛІКАВА



# ВЯНОК ЗАДЫЯКУ

### 1. УСТУП

Каб думалі аб вечным і святым,
У зараніцах, зорах, бліскавіцах
Глядзіць і ў душы нашыя глядзіцца
Жывое неба — невыказны мім.

У створаным усё ёсць прадусім,
Не наталіцца з той Першакрыніцы —
Сапраўдны міг вартуе таямніцы,
І вешчбіт той — хто валадарыць ім.

Замкні былое з прышласцю ў вянец,
І хай пачатку суджаны канец —

Паслухаем, што скажаш, мой санет,
Якія нам закладзены празоры
У нямінучых позірках сузор'яў,
У зморшчынах раздумлівых планет.

### 2. АВЕН

У зморшчынах раздумлівых планет,
Прарэзаных страсцямі, як і цнотай,
Ляжыць глыбока прага адзіноты
І мудрасці касмічнай запавет.

Прымі, Авен, душы сваёй партрэт,
Ёй дадзены і скарбы, і кляйноты,
Ды іх не знойдзеш, зіркаючы ўпотай
На ўласны цень, што засціла свет.

Не спачывай на лаўрах, як і ў марах,
Вой без шчыта — становішча ахвярай.

Агню абраннік, горды наш ягнец,
Хай звон мячоў стаіць на полі Марса,
Ты там адно —
для форсу ці для фарсу,
Суцішся — не спрачаецца мудрэц.

### 3. ЦЯЛЕЦ

Суцішся — не спрачаецца мудрэц,
Навошта словам ісціну нявoліць?
"На гэтае і сілы нам даволі", —
Напэўна, так падумаеш, Цялец?

Упартых форм даследчык і стварэц,
Ты прагнеш зведаць смак
зямное солі,
Але чаруе розум твой і волю
Сляпучым бляскам Залаты цялец.

Усё святое — нам даецца дарам,
Каб людзі храм не блыталі з базарам.

Ласун жыцця, спакусе наўзамен —
Бо страсці там, дзе гнёзды ўюць хімеры
—
Даверся пад заступніцтвам Венеры
Дзяліць душу, і хлеб свой, і агмень.

### 4. БЛІЗНЯТЫ

Дзяліць душу, і хлеб свой, і агмень...
О, Гіменей, адкінем гэту коснасць!
Падзелу не прымае сугалоснасць —
Дзе стануць межы — ляжа там і цень.

Як вось зары злучае ноч і дзень
І ў плоць душа святло сваё прыносіць,
Так палюсы яднаючы і лёсы,
Любоў двум сэрцам дорыць
свой прамень.

Ды ўзяць той дар не кожны з нас умец.
Жыццё ў працягу, адчужае — смерць.

Таму й дарогі сплецены ў вянкі,
Каб сталіся знаходкай нашы страты.
Усе па Богу-Духу мы блізняты,
Што разышліся ў розныя бакі.

### 5. РАК

Што разышліся ў розныя бакі,
Маўчальнікі святыя, па пячорах?
А тут — бурліць, шуміць людское мора,
Балючыя матэрыі шматкі.

І звон маўчыць. У трудны час такі,
Адрозніўшы адданасць ад пакоры,
Пара з нары ўзнімацца на пагорак:
Наш крыж адно ёсць —
падарожны кій.

Не дазваляй душы сваёй змарнець.
Як часта гнаны — зор саміх ганец!

Пяшчотны Рак, ідзі ў жыццё хутчэй,
Няхай усё не так — абы не міма.
Пад панцырам — хаваецца ранімасць.
Прадбачлівасць — не веданне яшчэ.

### 6. ЛЕЎ

Прадбачлівасць — не веданне яшчэ.
Вось і мяркуй, што доля наваpожыць.
Адвеку лёгка сеецца варожасць,
Ды ўсё благое — дзеецца лягчэй.

Куды ні кінеш — з ведамі ямчэй.
Ды, мудры Леў, задумваешся, можа,
Чаму часінай так неасцярожна
Збіраеш зыск зайздрослівых вачэй?

Бяжы ад тых, каго ты вабіш марна
Наіўнасцю ды гордасцю ліхвярнай.

Інакш — не асляпіся ў пахвальбе
Ні ўладаю, ні сілай, ні заможжам.
Як таленты, адказны ты памножыць
Усё, што Богам дадзена табе.

### 7. ДЗЕВА

Усё, што Богам дадзена табе
І людствам невымернае ніколі,
Прымі як дар у радасным спакоі,
Не знае цнота зморшчына на лбе.

Зямная Дзева — ў ласцы і ў журбе
Замкнёная ў зняверлівасці кола —
Як зерне ўвасабляе хлебны колас,
Так ты аднойчы вырасцеш з сябе.

Ды не цягні з мінулага нагару.
Той, хто пазбыўся гэткага цяжару —

Спасціг адзінства смерці і жыцця;
Падзелены ўмоўнасцю двурушнай,
Яны — палёт адной
двухкрылай птушкі,
Шукай між крылаў вечнасці працяг.

### 8. ШАЛІ

Шукай між крылаў вечнасці працяг.
Ды знойдзеш ключ, няйначай,
як у вагаў,
Каб з нерушшу не блытаць раўнавагу
На тоненькай вяровачцы быцця.

З агнём ты балансуеш там, хаця —
Табе не больш патрэбна той адвагі,
Таго памкнення, велічы і прагі,
Што ў першым кроку выкажа дзіця.

Пільнуй, каб быў нязгасным каганец,
У цемры шлях — няздольнаму гарэць.

І ўсім святлей ад полымя твайго
Тут, дзе вага наступнасць вырашае,
Учынак, слова, думка — ўсё на шалях,
Ідзе сам-насам бітва: хто — каго?

### 9. СКАРПІЁН

Ідзе сам-насам бітва: хто — каго? —
У чыё ж імя на ўхібах ды каменнях
Смяротна заліваем раздражненнем
Любові паратункавы агонь?

Што толку ў шкадаваннях наўздагон?
Аглухлыя ад віскату сумненняў,
Не слухаем уласнае сумленне —
І з джалам сустракаемся яго.

Дзе шчасце — наш прапылены закутак,
Адтуль і злоба пырскае атрутай.

Жыццё навідавоку — доля зор,
Ды там, дзе свет наш робіцца
замкнёным,
Ядуць сваіх не толькі скарпіёны,
Жывому — сонца. Вечнаму — прастор.

### 10. СТРАЛЕЦ

Жывому — сонца. Вечнаму — прастор.
Сцэнарый-лёс паклікае на сцэну —
Ляцім стралой запаленай у цемру,
А там — іграй жыццё сваё, актор!

Забудзь на дэкарацыі, убор,
Відовішча гульні святла і ценю —
Сапраўднасць рушыць
прывідныя сцэны,
Каб зладзіць душаў велічны сабор.

Прырослы бруд выпальвае пакута,
Трывай, Стралец,
як хочаш быць раскутым!

Пакінь гурму, як воўчую гайню,
На плошчы не звяртаюцца да Бога.
Каб навучыцца вышняму ў зямнога —
Памкнёныя скараюць вышыню.

### 11. КАЗЯРОГ

Памкнёныя скараюць вышыню.
Не пачынай нічога з кіслай мінай,
Бо там, дзе не памкненне, а павіннасць
—
Страх нараджае слізкую хлусню.

Зірні наўкол — нібыта ўпершыню,
Мы ўсе тут — на гадзіннікавай міне.
Хто бавіць час у мроі ды ўспаміне —
Прачнецца каля згаслага агню.

Мой светлы друг, пакінем забыццё,
Струхлелым хлудам — грэбуе касцёр.

Зайздросліваму трэба шмат чаго,
Ды багацей — не той, хто нешта мае,
А той, хто можа ўзяць, што пажадае,
Таму насмелься прагнуць усяго.

### 12. ВАДАЛЕЙ

Таму насмелься прагнуць усяго,
Што толькі гэтак зрушыш ад парога
Туды, дзе непатрэбна анічога,
Акром пазнання Бога аднаго.

Але на свеце меж і берагоў
Знайсці ў бяскрайнасць
трудную дарогу —
Чысцейшаму ад весняга разлогу
І ранку навароджаных снягоў.

Свабодай вызначай напрамак руху,
І там, дзе ўчуе сэрца, а не вуха,

Ты ўведаеш: і шчасцем, і бядой
Наносяцца аднолькавыя раны.
Не мітусіся, каб не зблытаць збаны
З жывой вадой і мёртваю вадой.

### 13. РЫБЫ

З жывой вадой і мёртваю вадой
Дзве Рыбы прапануюць нам знаёмасць,
З якіх адна імкнецца ў невядомасць,
Куды зусім не хочацца другой.

У кожным з нас хоць трошкі
ёсць ад той,
Што далеч захапляючы ў свядомасць,
Парваўшы пупавіну аксіёмаў,
На сушу выйшла з хваляю марской.

Ганец глыбінь да высяў, воін духу,
Цяпер прайдзі "па мору, як па суху" —

На покліч тайнаў, большых ад зямных,
Лаві прыцяг інакшых зор і светаў,
Пакінь разлік — наш Творца
быў Паэтам —
І хай палёт твой не захопіць дых.

### 14. ЗМЕЯНОСЕЦ

І хай палёт твой не захопіць дых,
Як там не знойдзеш слоў
і разуменняў, —
Яны патрэбны тут, дзе лёс і цемень
Мяжуюць нас на грэшных і святых.

Няма апораў у вышынях тых,
Калі зірнуць адтуль — мы летуценні
Саміх сябе... Ну, што ж, абы не цені,
Хай будзе светла ў далечах тваіх!

Ты сам — ёсць шлях,
а сэнс жыцця — Жыццё,
Даўнейшае за свет і небыццё.

Забудзь усё — і ўспомніш пад канец:
Каб новае магчымасці пачацца,
У кожным мігу ёсць адсутнасць часу.
Замкні былое з прышласцю ў вянец.

### 15. ЗМЕСТ

Замкні былое з прышласцю ў вянец,
Не спачывай на лаўрах, як і ў марах,
Усё святое — нам даецца дарам,
Ды ўзяць той дар не кожны з нас умец.

Не дазваляй душы сваёй змарнець,
Бяжы ад тых, каго ты вабіш марна,
Ды не цягні з мінулага нагару,
Пільнуй, каб быў нязгасным каганец.

Дзе шчасце — наш прапылены закутак,
Прырослы бруд выпальвае пакута.

Мой светлы друг, пакінем забыццё,
Свабодай вызначай напрамак руху,
Ганец глыбінь да высяў, воін духу,
Ты сам — ёсць шлях, а сэнс жыцця —
Жыццё.

Проза

# ДЗВЕ НАВЕЛЫ

Уладзімір СЦЯПАН



## ЧОРНЫ БІРС

Калі стары мужчына папраўляе плед, ці пачынае памешваць гарбату ў вялікім кобальтавым кубку — крэсла-гушкалка спалохана ўздыхае і рыпіць. Моцна запараная гарбата віруе, мельхіёравая пачарнелая лыжачка ў няўклюдных пальцах ценькае па сценках кубка, а потым кладзецца на сподак. Мужчына робіць глыток і заплюшчвае вочы. Пасля глытка гарбаты ён сядзіць нерухома: цьмяны, змрочны, засяроджаны.

Рыпіць адчыненая фортачка, за вакном падае снег. У пакоі цёмна, сутонліва. Пад фортачкай, на падваконні, стаіць невялікая алюмініевая місачка з пракіслым малаком.

Мужчына ўздрыгвае і шэры плед спаўзае, падае на стаптаны дыван. На твары гаспадара кватэры з'яўляецца ўсмешка, адначасова вінаватая і паблажлівая. Ён дапівае халодную несалодкую гарбату і апускае руку, асцярожна ставіць кубак на падлогу побач з крэслам.

Праграмы па тэлевізары скончыліся і на чорна-белым экране сыплецца электронны снег. Мужчына глядзіць на вакно, потым на экран і не знаходзіць ні жадання, ні моцы, каб падняцца, націснуць кнопку і спыніць надакучлівую мітусню, чорна-белую пацяруху.

Ён засяроджана чакае, пагойдваецца ў расхістаным крэсле, прыслухоўваецца да цішыні, якая запаўняе кватэру, да вуркатання вады ў радыятары, да галасоў на вуліцы. Але ўсе гэтыя гукі яго не радуюць. Ён ужо колькі дзён не намыльваў твар, не шоргаў лязом па скураным пасе, а таму густая шчэць патрэсквае пад пальцамі...

Звыклы расклад жыцця зруйнаваўся пасля таго, як ён усвядоміў, што чорны з белай пысай кот па мянушчы Бірс знік з дому. Спачатку мужчына не надаў гэтаму ўвагі. Сышоў і сышоў, вернецца — пабегае па вуліцы, нацешыцца воляй, згаладаецца і вернецца. Такое ўжо было, па некалькі разоў на год Бірс знікаў. Саскокваў праз фортачку на таполю, а з яе злазіў на зямлю. Дні праз тры-чатыры вяртаўся. Звычайна ўскудлачаны, брудны, але спакойны, задаволены жыццём. І тады ўсё ішло па завядзёнцы — мужчына жыў сваім жыццём, а кот сваім.

Цяпер тое жыццё згадваецца як сон: лёгкі і прыемны. Больш за ўсё Бірсу падабалася сядзець на шырокім падваконні і глядзець праз шкло на вуліцу. Амаль бязгучная спрытная жывёла ўспрымала кватэру на другім паверсе як сваю нару, а яго — гаспадара, як істоту, якая мусіць даваць ежу, мяняць у місачцы ваду, прыбіраць.

Раней чалавеку здавалася, што ён нічым не абавязаны кату, абсалютна нічым. Ён нават сварыўся на Бірса, адштурхоўваў, адкідваў нагой, калі той круціўся каля лядоўні, шкроб яе кіпцюрамі, княваў, прасіў пачастунку.

Увогуле мужчына лічыў ката абавязаным сабе жыццём, і, зрэдку, калі быў у гуморы, казаў: "Ты, Бірс, не жыў бы на гэтым свеце, не лавіў бы мух, не драў бы галубоў на балконе, каб не я!" Кот хаваўся пад стол ці крэсла і пазіраў жоўтымі вачамі, калаціў па падлозе хвастом. А гаспадар працягваў: "Злуешся? Не дам есці — адразу лагодным станеш, не верыш?.."

Мужчына шчыльней захутваецца ў плед, падсоўвае азяблыя рукі пад пахі і пазяхае. У пакой праз наросхрыст адчыненую фортачку залятаюць сняжынкі і, дакрануўшыся падваконня, растаюць. З падваконня падаюць на фарбаваную сурыкам падлогу цяжкія кроплі, і каля радыятара збіраецца лужынка. Падзенне кропель бязгучнае і толькі па ўсплёсках святла можна здагадацца пра лужынку. Але яго не хвалюе, што ў кватэры холадна, што край дывана мокры, што на раме ляжыць і паступова растае снег. Ён глядзіць на вакно і ўсё яшчэ спадзяецца, што на таполі з'явіцца Бірс, што драпежна ўспыхнуць зялёныя вочы, што кот бязгучна скокне з дрэва на раму, а потым на падваконне і завуркоча: радасна і драпежна. Цямнейшы за цень, чарнейшы за начное неба, мокры, засыпаны снегам вялікі кот вернецца да яго, да немаладога, хворага, самотнага і няшчаснага. Толькі цяпер, калі кот знік, мужчына адчуў, усвядоміў, што ён самотны і няшчасны, і што адзіны, каму ён патрэбны, гэты чорны кот Бірс. Гэта адкрыццё не прынесла ні абурэння, ні крыўды, ні радасці. Мужчына проста згадаў пражытыя гады і не ўбачыў за спінаю яркага святла: сутонлівыя прыцемкі, аднастайныя, як ранішні ці вечаровы туман, панавалі ў мінулым...

Калі б раней, гадоў восем таму, хто-небудзь сказаў, што ён будзе так моцна перажываць з-за ката — мужчына засмяяўся б у адказ, скрывіў бы свой тонкі рот. Ён нават не перажываў, калі жонка, з якой яны пражылі семнаццаць гадоў, сабрала свае рэчы і сышла. Ён успрыняў гэта спакойна, нават з прыхаванай радасцю, са спадзяваннем на лепшае. Падумаў будзённа і проста, як пра святло, якое згасла раптоўна і па невядомай прычыне, ці як пра знікненне гарачай вады. "Вернецца... Паходзіць, паходзіць і вернецца..." Але жонка не прыйшла ні праз тыдзень, ні праз год. і ён прызвычаіўся жыць адзін, прызвычаіўся спадзявацца толькі на сябе самога, на ўласныя сілы. Зразумела, што час ад часу з'яўляліся ў па-халасцяцку чыстай кватэры жанчыны. Яны пакідалі пасля сябе адно пах парфумы і поту, якія хутка знікалі, змешваліся з пахам старых часопісаў на паліцах і рэчаў, акуратных, нібыта падрыхтаваных на продаж. Зрэдку жанчыны пакідалі, ці забывалі якую драбязу ў яго кватэры, але, як ні дзіўна, ніколі не вярталіся. І ён радаваўся таму, як проста і лёгка ўсё атрымліваецца, як вольна зрабілася ў пакоях, радаваўся цішыні і адзіноце, так, як радаваўся спачатку жаночаму голасу на кухні, бразгату посуду, шуму вады ў прыбіральні ці ванным пакоі...

След ад правай рукі і пляча на блакітных шпалерах нагадвае пасму туману, які нерухома вісіць і хавае пад сабой дробныя ультрамарынавыя кветачкі. Гэты след пачынаецца ад спачывальні, цягнецца праз калідор і абрываецца на вушаку прыбіральні, побач з выключальнікам. Гэты след — шлях, ранішні ці начны маршрут старога чалавека па сваёй кватэры.

Упершыню сэрца схапіла раптоўна, і ён добра памятаў вечар. Ён ішоў да тэлевізара, каб паглядзець вячэрнія навіны. Ад нечаканасці нават выпусціў акуляры і яны ўпалі пад ногі, сціснуўся, застыў на месцы і не здолеў, хоць вельмі хацеў, уздыхнуць на поўныя грудзі. Ён так і стаяў побач з тэлевізарам, прыціскаў далонь да грудзей і прыслухоўваўся да перарывістага тахкання. Сэрца балела вечар і ўсю ноч. На раніцу давялося ісці ў паліклініку. Легчы ў бальніцу мужчына адмовіўся, чым моцна здзівіў доктара. Зрабілі ўкол, выпісалі таблетак, доктар параіў быць асцярожным.

Праз год ён перастаў адчуваць левую нагу. Па вуліцы хадзіў з кавенькай, а па кватэры так: абапіраўся рукой ці плячом на сцяну і няспешна сунуўся з пакоя ў пакой.

Упершыню, калі прыхапіла сэрца, Бірс быццам адчуў, што гаспадару кепска, і лёг да яго на ложак. Кот ціха вуркатаў і дазваляў гладзіць сваю мяккую поўсць, дакранацца да пярэдніх лапаў з прыхаванымі кіпцюрамі. Гэта было шэсць гадоў таму, на прыканцы студзёнага і мокрага лістапада, калі за вокнамі скавытаў вецер, а дождж і таполя шаргацелі, шкрабліся па шыбе і карнізе, хісталіся, як у п'янага ў вачах...

Мужчыне падалося, што ён чуе знаёмае каўканне. Ён хітае галавой, страсае, адганяе сон, шчыльней захутваецца ў плед і пачынае глядзець на шкло. Бязважка сыплюцца буйныя сняжынкі, рыпіць фортачка. Таполя чарнее за шклом. Зноў падалося — пакрыўджана ўздыхае.

Тыдні два таму ён ішоў у краму і на аўтобусным прыпынку яго ўвагу спынілі аб'явы, налепленыя на аўтобусны слуп. Не ўсе аб'явы, а толькі адна. Мужчына колькі разоў перачытаў яе, а калі вярнуўся дадому, узяў сшытак і напісаў дзесяць аб'явак.

"У мяне прапаў кот. Чорны, з белай плямай на галаве. Прашу вярнуць за ўзнагароду". Потым напісаў тэлефонны нумар і адрас. Выйшаў ноччу на вуліцу, хаваючы сорам, расклеіў аб'явы на тралейбусным і аўтобусным прыпынках, на дзвярах пад'ездаў, на сцяне хлебнай крамы...

На наступны дзень у дзверы пазванілі. У парозе стаялі дзяўчынкі. Адна трымала на руках вялікага, жаўтавокага чорнага ката. Гэта быў не Бірс, але мужчына з хваляваннем, ад увагі да сябе, стаў тлумачыць і расказваць, як выглядае яго кот. Дзяўчынкі слухалі, згодна хіталі ў адказ, міргалі чыстымі, як шкло, вачамі. Тая, што трымала чорнага ката, калі даслухала, выпусціла яго з рук. Кот засычэў і кінуўся ўверх па сходах. "А я думала, што гэта ваш. Ён ужо тыдзень жыве ў нашым пад'ездзе..." "Не, мой прыгожы і не такі кудлаты. Вочы ў майго Бірса зялёныя, а не жоўтыя". Мужчына падзякаваў, дзяўчынкі сышлі. А на развітанне меншая расказала-пахвалілася, што ў яе таксама знік кот, а калі, аж праз месяц, яна яго знайшла — кот быў худы, як лінейка, і на рукі не ішоў.

Яшчэ колькі разоў дзеці прыносілі катоў і кацянят, злоўленых у пад'ездах, сутарэннях і каля сметнікаў. Зрэдку званіў тэлефон, цікавіліся памерам узнагароды за чорнага з белай плямай ката, а аднойчы незнаёмая жанчына з прыемным голасам прапанавала купіць яе абрыкосавага пароднага перса...

Сем гадоў таму немаладая суседка з кватэры насупраць перастрэла мужчыну на лесвіцы і, як заўсёды, пасля неабавязковай размовы пра надвор'е, пачала скардзіцца на ўнукаў. Хлопцы прынеслі дахаты старую кошку, а яна ўзяла ды акацілася проста ў кухні, пад газавой плітой. І яна, суседка, не ведае, што рабіць з тымі кацянятамі. Мужчына скрывіў тонкі рот і даў простую параду — кацянят утапіць. Суседка колькі маўчала, а потым згодна захітала, прызналася, што і сама думала менавіта пра гэта, менавіта пра такое простае выйсце. Але ўся цяжкасць была ў тым, што суседка нават жывую рыбу не магла чысціць, а не тое што тапіць кацянят. Мужчына знізаў плячамі і зайшоў у суседскую кватэру. Жанчына вынесла кошку на балкон, зачыніла дзверы і стала пры іх з выглядам, што яна зрабіла самае цяжкае. У яе вачах быў спалох і лёгкі недавер. Зразумела, яна ўсё жыццё пражыла ў горадзе, працавала настаўніцай геаграфіі, і ніколі тапіць кацянят ёй не даводзілася.

Мужчына адчыніў прыбіральню, а потым у кухні апусціўся перад плітой на калені і выцягнуў скрыню, у якой ляжалі кацяняты. Іх было пяць, усе рознай масці, але з аднолькавымі блакітнымі вачамі. Кацяняты драпаліся, каўкалі. Ён браў па адным і насіў у прыбіральню. Пускаў ваду, а потым вяртаўся і чакаў, калі вада набяжыць у бачок. Суседка моршчылася, але вочы былі сухія, яна адно спалохана прыслухоўвалася, ці не з'явіліся ў калідоры ўнукі.

Калі мужчына трымаў у руцэ апошняе кацяня, чорнае, з белай плямай на галаве, і ўжо збіраўся рушыць у прыбіральню кінуць яго ва ўнітаз, жанчына ўздыхнула. "Што, можа гэтага пакінуць?" — крыва пасміхнуўся ён. Суседка адвярнулася і адмоўна хітнула галавой з пучком сівых валасоў на патыліцы...

Мужчына і сам не ведаў, чаму затрымаўся. Гэтая затрымка і ўратавала ад смерці пятае кацяня...

Ён вярнуўся ў сваю кватэру, пагрэў малака і пачаў карміць маленькую істоту, прыслухоўвацца да ледзь чутнага каўкання...

Мужчына і кот, па мянушчы Бірс, жылі разам сем гадоў. Зрэдку чалавек сварыўся, не дазваляў кату заскокваць на стол, не дазваляў тачыць кіпцюры аб шпалеры... Але калі гаспадар не бачыў, Бірс ставаў на заднія лапы і дзёр калідорныя сцены, пакідаў глыбокія шнары і драпіны. Блакітныя, у клетачку, шпалеры віселі лахманамі, як кара на бярозе, і ён нічога не мог зрабіць, акрамя як насварыцца ды выгнаць Бірса на зашклёны балкон. Увечары балкон адчыняўся, і кот заскокваў у кватэру, кідаўся да сваёй місачкі, а калі яна была пустая, то пакрыўджана каўкаў і цёрся аб ногі гаспадара...

Тры тыдні таму Бірс скінуў з тумбачкі вялікі кобальтавы кубак з гарбатай. Адбілася ручка. Мужчына пасапраўднаму раззлаваўся, а кот спалохаўся, пакрыўдзіўся і збег праз фортачку на вуліцу.

Мужчына амаль гадзіну корпаўся, але прыклеіў ручку так добра, што нават не было відаць расколіны. Цяпер той самы кубак стаіць побач з крэслам-гушкалкай, а вось Бірса няма. Не ляжыць на стаптаным дыване чорны кот, утульна падкурчыўшы пад сябе лапы.

Мужчына хіснуўся ў крэсле, яму падалося, што кот ускочыў да яго на калені. На тонкіх губах з'явілася паблажлівая і адначасова вінаватая ўсмешка.

Чарнейшы за начное неба кот спрытна ўскараскаецца на таполю. На пульхным снезе застанецца ланцужок слядоў. З дрэва чорны кот пераскочыць на фортачку. Зірне на алюмініевую місачку даўно пракіслага малака. Акуратна абыдзе лужыну на падлозе. Амаль бязгучна каўкне і ўскочыць на калені да гаспадара. Крэсла-гушкалка хіснецца: плед ссунецца на падлогу. У нерухомых вачах мужчыны адаб'ецца экран тэлевізара з аднастайным мігценнем электроннага снегу.

## МАРА

Я не верыў у прывіды і здані, пра якія любяць расказваць і якімі палохаюць у маім гарадку малых дзяцей. Не веру, што за вуліцай Узбярэжнай, на лузе, час ад часу можна ўбачыць чорнага шалёнага сабаку, які разам з гаспадаром з'яўляецца на світанні. Але дакладна ведаю, што жанчыны баяцца па восені выводзіць на луг сваіх коз і авечак...

Адзінае параўнанне, якое падаецца трапным, калі згадваю Антона Кошаля, — гэта выдраны хворы зуб. Вялікі, жоўта-карычневы з глыбокімі расколінамі, жахлівы ў сваёй рэальнасці, зуб. Цяжка вытлумачыць, чаму не палец, не вока, не птушка ці дрэва... Можа, таму, што выдраны зуб больш не патрэбны, што боль суняўся, а пакуты скончыліся.

(Працяг на стар. 10-11)

упэўненасць — школа. Быў выпадак, калі знаны мэтр Валеры Раеўскі адкрыў на нашай сцэне для сябе... сябе. Як педагог Акадэміі мастацтваў ён проста не чакаў ад сябе такога імпэтнага імправізавання, такой захопленай працы над тэкстам і паваротkamі сюжэта. Бо, вядома, з драматургіяй яму можна было рабіць... шмат.

**— А як гарманізуюцца славутыя дачыненні тых, хто ставіць, і тых, хто выконвае задачы ў эксперыменце?**

— Падчас чытання п'есы валадарыць воля драматурга. На пляцоўцы пануе рэжысёр. Па першым часе я наіўна прасіў, каб ён, рэжысёр, не далёка адыходзіўся ад аўтара, не імкнуўся абавязкова пераніцаваць таго на свой капыл, не абвастраў дачыненняў, але пераканаўся, што гэткая памяркоўнасць — шкодзіць. Трэба змірыцца з тым (як з аксіёмай), што ніколі п'еса і спектакль паводле яе не будуць, мовім агрублена, адным і тым самым; праца над п'есаю і праца над спектаклем ніколі не дадуць аднолькавы вынік. Нават тады, калі п'есы піша рэжысёр, або спадар драматург сядзіць на кожнай рэпетыцыі (як у нас) і мае права і магчымасць злавацца, абурацца, прасіць, маліць, выбягаць з залы, вохкаць або сцішана перажываць. Урэшце, нашы спектаклі робяцца агульным досведам усіх, хто ўдзельнічае ў рэпетыцыях.

**— Сусветны тэатр ужо не першы год (сярод усяго) выразна галінуецца на відовішча, што абыходзіцца зусім без тэксту, і на дзеянне, пабудаванае, грунтаванае толькі на тэксце (нібы вяртаючыся ў эпоху, калі са сцэны перадусім прамаўлялі ў строях). Дзе сярод гэтых галін гнездзяцца вашы эксперыменты?**

— Мы цалкам залежныя ад таго, што нам прапануюць сёння і заўтра. Нас радуе ўсё жывое, нешараговае, неабыякавае. Кіраваць асобаю творцы, я перакананы, немагчыма. Мы якраз адстойваем асобу, якая піша. Калі асобы няма, дык і гаворкі няма. Але пакуль мы — тэатр больш тэкставы, бо падстава нашага эксперыменту — драматургія. Слова. Было, аднак, што п'есу "Пеўчыя" рэжысёр амаль цалкам пазбавіў аўтарскага тэксту (увогуле пакінуўшы ад драматургавых намаганняў паўтары друкаваных старонaчкі сюжэта), а паводле ідэі зрабіў тое, у чым аўтар сябе не пазнаў і засупраціўляўся. У даным выпадку рэжысёр выступіў як аўтар усіх кампанентаў відовішча.

**— А калі выбітнага тэксту бракуе твору, ці схільныя вы даводзіць яго да гледача, беручы ў работу толькі сюжэт, ідэю і г.д.?**

— Але. Надарылася аднойчы, што прапанаваная літаратура ўяўляла сабою малацікавы шэраг, але ідэя напісанага і нават эстэтыка, што праглядалася ў будучай пастаноўцы, давалі падставу для работы. І мы не прамінулі папрацаваць.

**— Перадусім, трэба разумець, ваш эксперымент — у сутыкненні драматурга з рэжысёрам?**

— Безумоўна. Акцёры — залежныя, але іхняя доля такая.

**— Мабыць, гэта завельмі дарагая цацка — спектаклі, якім часцяком прызначана дайсці толькі да вузенькага кола публікі, выпрацавацца эксперыментальна, а потым — знікнуць?**

— Тэатр — увогуле дарагая цацка. Нам дапамагаюць гуляць з ёю, спадзеючыся на досвед. Па досвед прыходзіць глядач, які, дарэчы, проста вымаг з нас, эксперыментальнага тэатра, пятнаццаці спектакляў на месяц (іграем з прыемнасцю). Досвед — неацэнны. Эксперымент можа грунтавацца толькі на ім.

**Гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымку: Мікола Рабычын (Дурань) і Андрэй Кавальчук (Шукальнік) у спектаклі "Галава" Ігара Сідарука.*

*Фота Уладзіміра ПАНАДЫ і Уладзіміра РАБЦАВА*

# У ШЧЫЛЬНЫМ ЗВЯЗКУ З САХАРАЎЦАМІ

19 ліпеня пачнецца візіт у Мінск і Віцебск вядомага культуролага, аднаго з арганізатараў Эдынбургскага фестывалю мастацтваў, прафесара Рычарда Дэмарка. Перадусім трэба вылучыць ягонае шчыльнае супрацоўніцтва з Беларускім інстытутам па радыеэкалогіі імя А.Сахарава. Літаральна кожную мастацкую прапанову спадар прафесар суадносіць і ажыццяўляе ў рэчышчы памкненняў і зацікаўленняў Сахараўскага інстытута, ягоных супольных праграм з Кінгстан-універсітэтам у Лондане, дзе выкладае сам Рычард Дэмарка. Мэту гэтага візіту можна вызначыць як канчатковую адпрацоўку ўсіх праектаў беларускай праграмы, якая мае быць прадстаўлена публіцы Эдынбургскага фэсту на працягу жніўня.

*На здымку: Рычард Дэмарка з актрысамі Альтэрнатыўнага тэатра, чый спектакль мусіць браць удзел у фестывалі.*

*• Фота Алены ЕЖАНКОВАЙ*

# СПЯВАЧКУ ВІНШАВАЛІ СЛУХАЧЫ

Нэлі Багуслаўская — адна з першых "зорак" беларускай эстрады. Быў час, і не такі, здаецца, даўні, калі яе спевы, пазначаныя сапраўднай прафесійнай культурай і музычным густам, ці не штодня гучалі ў радыёэфіры. Прыхільнікам спявачкі даводзілася, хаця й нячаста, трапляць на канцэрты з яе ўдзелам... Нядаўна заслужаная артыстка Беларусі Н. Багуслаўская адзначыла свой юбілей. Здавалася б, у гэты дзень пра яе маглі ўспомніць толькі блізкія, сябры — бо мода на эстрадзе мяняецца хутка, і колішнія гучныя імёны ў лепшым выпадку робяцца радком гісторыі. Аднак — сустрэча са спявачкай адбылася ў той дзень у "жывым" радыёэфіры. Вядучая гутаркі Т. Песнякевіч літаральна не паспявала задаваць пытанні сваёй суразмоўцы, бо студыю апанавалі... радыёслухачы... Яны няспынна тэлефанавалі, віталі любімую спявачку, дзякавалі ёй за шчырасць і самаадданасць у мастацтве, звярталіся з самымі рознымі пытаннямі і, канечне ж, віншавалі з днём нараджэння. Раз-пораз гучаў з эфіру яе пранікнёны абаяльны голас, захаваны ў запісах самых розных лірычных песень. А яшчэ Н. Багуслаўскую віншавалі ў калектыве Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, дзе яна з нядаўняга часу працуе педагогам-рэпетытарам, імкнучыся перадаць малыдым салістам-спевакам тыя прафесійныя сакрэты, дзякуючы якім беларуская эстрада вызначалася на сваім золку шчырасцю, высакароднасцю і патрабавальным густам.

**С. ВЕТКА**

больш не жыць...

Антонава маці спадзявалася, што войска зможа змяніць сына і ён вернецца іншым чалавекам. Яна напазычала грошай і зрабіла добрую вечарыну, на якой пагуляла ці не ўся моладзь гарадка. Але яна не паспела вярнуць пазыкі, як яе сын вярнуўся дадому. У вайсковым білеце быў запіс і пячатка, якія сведчылі, што Антон хворы і праходзіць службу не можа...

Здаецца, тройчы забіралі Антона Кошаля на прымусовае лячэнне ад алкагалізму, але марна. Ён вяртаўся змрочны і злосны на ўвесь свет, а больш на маці. Знаходзіліся сябры-таварышы і ўсё пачыналася зноў. Антон зносіў з дому рэчы, прадаваў, купляў гарэлку і піў. Ён казаў, што піць яму падабаецца і што дзень, калі ён цвярозы, пражыты дарма. У гарэлцы ён знаходзіў тое, чаго не хапала ў жыцці. На падпітку ён рабіўся спакойным, упэўненым, знікала злосць і лютасць. Піць ён умеў, ніколі не валяўся, не засынаў на лаўцы ў парку ці ў пад'ездзе, заўсёды вяртаўся дадому.

У гарадку адзін час пачалі казаць, што як мужчына Антон ні на што не здатны, што ён хоць і дужы, як той бык, але... Праўда, потым высветлілася, што прыцемкамі на Узбярэжную цягаецца і сыходзіць пад раніцу дачка загадчыка лазні, чырванатварая Люба, па мянушцы "Памідор", якая выглядала так, быццам была злепленая з тузіна падушак. Любка-Памідор была знакамітая не толькі праз сваю нязводную юрлівасць, але і тым, што магла, не пераводзячы дыхання, выпіць з рыльца вялікую пляшку віна. Гэта яна і пахвалілася сваім сяброўкам, што лепшага мужчыны за Антона Кошаля ў гарадку няма. Каму каму, а ёй паверылі. Магчыма, каб не яе доўгі, развязаны танным вінам язык, Антон Кошаль жыў бы з ёй... Але чуткі дайшлі да яе бацькі, і загадчык лазні з раніцы кінуўся да дома нумар сем па Узбярэжнай. Антон Кошаль сустрэў госця на ганку, у дом, дзе была Любка, не пусціў. Размовы не атрымалася. На пытанне, па-азіяцку мурзатага загадчыка лазні, ці збіраецца Антон жаніцца на яго дачцэ, Кошаль вырачыў збялелыя ад шалу вочы і сказаў, што і ведаць не ведае яго прыдуркаватую дачку... На наступны дзень загадчык звольніў з працы Антонаву маці, якая працавала прыбіральшчыцай на мужчынскай палове. А якая размова адбылася ў бацькі з дачкой, ніхто не ведаў, але Любка-Памідор зрабіла чарговы аборт, пра які ўсе ведалі...

Колькі разоў Антон з'язджаў з гарадка на заробкі — фарбаваць фасады будынкаў. Праходзіла лета, ён вяртаўся і пажадна накідваўся на гарэлку...

Антон прывёў са станцыі сабаку, сучку. Яна сама падышла да яго і ўзяла з рукі кавалак кілбасы. Яна дазволіла зашморгнуць на шыі пас, прывязаць шворку. Антон назваў яе Марай. Чаму ён даў такую мянушку кашлатай, змрочнай сучцы, ніхто не ведаў, а ён не тлумачыў.

Калі нехта з суседак пытаў у яго: "А чым ты будзеш яе карміць?", Антон ашчэрваўся ўсмешкай тапельца і сычэў: "А хай матчыну галаву грызе!"

Яго маці на той час ужо нідзе не працавала, яна ляжала хворая ў хаце, на жалезным ложку, і ціха стагнала, спалохана і пакрыўджана. На табурэтцы месціліся бутэлечкі з лекамі, талерка з ежай, кубак з малаком. Жанчына глядзела на суседку, якая асмелілася спытацца, на свайго сына, які стаяў у парозе, на вялізнага сабаку побач з ім і не магла вымавіць слова. Яна баялася, што сын можа нацкаваць звера і той кінецца, перагрызе горла, высмакча кроў, будзе лізаць сваім цёмным, як старая тарка, языком знявечаны твар.

Праз месяц Антонава маці пачала ўставаць і выходзіць на агарод. Яна падкопвала бульбу і насіла ў склеп. Мара ляжала на ганку, паклаўшы галаву на дужыя лапы, і насцярожана сачыла за кожным рухам жанчыны з кошыкам у руках. Вушы нашаторваліся, калі жанчына праходзіла побач. Грымеў ланцуг, Мара грызла жалеза, качалася, выкусвала блох...

Жанчына ўзненавідзела сабаку, але да часу хавала свае пачуцці. Праўда, колькі разоў яна спрабавала пачаць з сынам размову пра тое, што сабака ім не трэба і ад яго трэба пазбавіцца, узяць і прадаць. Адказ быў заўсёдны: "Маўчы, не твая справа. Яна будзе жыць тут, а калі не падабаецца, ідзі сама куды хочаш". Жанчына ад такіх слоў ніякавела. А Антон выходзіў на ганак, сядаў на бетонную прыступку. Мара падыходзіла да гаспадара і клала сваю цяжкую галаву яму на калені, лізала рукі, зазірала ў вочы. Мужчына моршчыўся, як ад нясцерпнага болю, запускаў пальцы пад ашыйнік, адшчоўкваў карабін. "Што, падабаецца, падла? Ну-ну, супакойся, сціхні, а то прымкну".

Антонава маці скардзілася суседцы, што яна зрабілася для сына чужой, а вось шалёную сучку ён гатовы карміць з лыжачкі. А ёй, роднай маці, якая выгадавала і корміць-даглядае, нават вады не падасць...

Так казалі суседзі.

Магчыма, жанчына вырашыла знішчыць сабаку раптоўна, а можа, доўга збіралася, рыхтавалася, гэтага, акрамя яе, ніхто не ведаў. Аднойчы, калі сын працаваў на станцыі, дзе разгружаў вагоны, яна атруціла Мару. Не ведаю, ці адчула яна палёгку, змешаную са спустошанасцю, пасля таго, як Мара колькі хвілін скавытала, ірвалася з ланцуга, пускала сліну, ванітавала і круцілася, як шалёная, на адным месцы. Жанчына адшчоўкнула карабін, калі сучка, ашчэрыўшы пашчу, выпрасталася каля ганка. Хто ведае, з якімі пачуццямі яна цягнула сабаку пад яблыню, дзе выкапала яміну...

Антон вярнуўся апоўначы. Пра што ён гаварыў з маці і ці гаварыў увогуле, невядома.

Ноччу Антон пабудзіў суседзяў і абвясціў, што яго маці памерла. У яго голасе не было ні жалю, ні абурэння.

Суседка, якая прыносіла Кошалям казінае малако, расказвала, што яна спачатку нават узрадавалася і сказала мужу: "Нарэшце пакуты скончыліся і гаротніца ціха адышла, бо колькі ж можна трываць такое жыццё!.." Тады нікому не хацелася падумаць, як усё адбылося на справе.

Нараніцу нябожчыцу памылі і апранулі. Прывезлі труну з папяровымі карункамі. Хаваць вырашылі заўтра. Ноч труна мусіла прастаяць у доме на засланай прасцiной лаве. Суседкі разышліся па дамах.

Нараніцу дзверы дома нумар сем былі наросхрыст. Жанчыны ўвайшлі ў дом. У блакітнай труне на месцы нябожчыцы ляжала кашлатая, цёмная, як торф, Мара.

Антон Кошаль вісеў у дрывотні. Ён засіліўся на ланцугу. Ашыйнік з бліскучымі клёпкамі валяўся побач.

І яшчэ казалі, што Антонаў твар выглядаў так, быццам яго грызлі сабакі.

Антонаву маці знайшлі пад яблыняй. Высветлілася, што жанчына памерла не сваёй смерцю, а была задушана падушкай.

Гады тры дом нумар сем па вуліцы Узбярэжнай стаяў з забітымі вокнамі, а потым яго купілі і перавезлі, каб перабраць на лецішча, нетутэйшыя людзі.

# СЛАВУТЫМ ЗЕМЛЯКАМ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА...

Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое:
Не цэнім маючы, а страцім залатое —
Шкада, як і красы твае, мой родны краю.
Адам МІЦКЕВІЧ

**Вялікае княства Літоўскае, Рэч Паспалітая, "Северо-Западный край", БССР — Беларусь...**

**Русіны, ліцвіны, палякі і зноў жа ліцвіны, і тут жа рускія, і пры гэтым тутэйшыя, савецкі народ — беларусы...**

**Што ж ёсць наша радзіма, і хто ёсць мы? Ад адказу на гэтае пытанне залежыць будучыня нашай Бацькаўшчыны як суверэннай дзяржавы і беларусаў як самабытнага этнасу. Самаасэнсаванне нацыі небяспечна задоўжылася. Менавіта цяпер як ніколі востра адчуваецца патрэба ў шырокай, якая ахапіла б усе слаі насельніцтва, кампаніі па прапагандзе нацыянальнай ідэі, каб на папулярным, "прымітыўна-простым" узроўні давесці да свядомасці кожнага грамадзяніна сутнасць адвечнай драмы Маці-Беларусі і абудзіць у яго душы гонар за яе слаўную мінуўшчыну, за яе багатыя культурныя традыцыі.**

**Для вырашэння гэтай няпростай задачы неабходна пераасэнсаванне дзяржаўных і грамадскіх адносін да нашай гісторыі, неабходна рашуча абвергнуць тэзіс аб нібыта 200-гадовым летаргічным сне беларускага народа. Культурнае жыццё на абшарах Беларусі не адставала ад культурнага жыцця Еўропы, а тое, што выяўляцца яно мусіла на чужой мове, з'яўляецца адной з найбольшых нацыянальных трагедый.**

**Яркай ілюстрацыяй гэтага — паэтычная спадчына выдатнага польскамоўнага паэта Беларусі XIX ст. Адама Міцкевіча, 200-годдзе з дня нараджэння якога неўзабаве будзе адзначаць увесь свет. Адным з першых прэцэдэнтаў і свайго роду падрыхтоўкай да святкавання юбілею стала міжнародная канферэнцыя, прысвечаная нашым славутым землякам Адаму Міцкевічу і К. Міцкевічу (Якубу Коласу). Яна адбылася на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта з ініцыятывы кафедры славістыкі БДУ. У яе арганізацыі прынялі ўдзел Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Беларускі фонд Адама Міцкевіча. Пры выключнай значнасці абодвух паэтаў для культуры Беларусі на сённяшні дзень творчасць Коласа грунтоўна даследавана, а вось паэзія А. Міцкевіча, па сутнасці, яшчэ застаецца па-за ўвагай айчыннай навукі.**

**— Адама Міцкевіча нельга лічыць толькі палякам. Гэта постаць сусветнай значнасці, а радзіма яго — Беларусь, — адкрываючы канферэнцыю, дакладна акрэсліў яе асноўную праблему намеснік міністра культуры і друку У. Гілеп.**

**Як бы прадчуваючы пярэчанні адносна беларускасці А. Міцкевіча, член-карэспандэнт АН Беларусі А. Лойка ў сваім дакладзе зазначыў, што на пачатку XIX стагоддзя беларускасць не існавала як самастойная з'ява, а часткова выяўлялася як ліцвінскасць — гэта значыць, як рух за рэстаўрацыю уніі і Рэчы Паспалітай. Нездарма пазней яшчэ і Дунін-Марцінкевіч называў сябе ліцвінам, а Міншчыну — Літвою і толькі Віцебшчыну — Беларуссю.**

**На супярэчлівасць нацыянальнага вызначэння А. Міцкевіча ўказаў старшы навуковы супрацоўнік Інстытута імя Янкі Купалы АН Беларусі У. Мархель. Ён заўважыў, што Міцкевіч пісаў пра ліцвінаў, маючы на ўвазе сваіх суайчыннікаў, нашчадкаў Вялікага княства Літоўскага, і ў гэтым сэнсе быў таксама ліцвінам, аднак ён жа з'яўляўся прыхільнікам ідэі адраджэння незалежнай Рэчы Паспалітай і як свядомы грамадзянін зняволенай дзяржавы называў сябе палякам.**

**Пераасэнсоўваючы постаць А. Міцкевіча як прадстаўніка тагачаснай культуры Беларусі, неабходна ўлічваць, што яго паэзія ад пачатку была і назаўсёды застанецца класікай польскай літаратуры. Пры гэтым яе ўплыў на культурнае жыццё ўсіх славянскіх народаў даволі адчувальны — аб асэнсаванні гэтага аспекта праблемы гаварыў у сваім дакладзе загадчык кафедры славістыкі БДУ К. Хромчанка.**

**Апрача названых, у праграме пленарнага пасяджэння былі даклады прафесара Варшаўскага універсітэта, ганаровага прафесара БДУ А. Баршчэўскага, прафесараў БДУ В. Рагойшы і В. Шалькевіча. Пасля вялася работа па секцыях, на якіх выступілі вучоныя з Мінска і іншых гарадоў Беларусі.**

**Для пашырэння распачатай працы, для надання ёй сістэмнасці неабходна дзяржаўная падтрымка. Важна, каб Міцкевічаўскія канферэнцыі сталі штогадовымі. Гэта адзін з дзейсных шляхоў актывізацыі намаганняў беларускіх вучоных у кірунку далейшага асэнсавання айчыннай гісторыі і культуры. Ад плённасці гэтай працы ў рэшце рэшт залежыць, наколькі глыбока будзе сягаць гістарычная памяць народа, як актыўна будзе развівацца працэс нацыянальнага самаўсведамлення нашых сучаснікаў, супляменнікаў, суайчыннікаў.**

Павел НАВОЙЧЫК

# ПАГОНЯ — БОГ, РАДЗІМА, НАРОД!

*(Пачатак на стар. 13)*

цем пагоня. Гэтым жа паняццем аб'ядноўваюцца саслоўе сялян — пагоніч і саслоўе віцязяў — пагоніч і бінарная апазіцыя мір — вайна. Як бачым, пагоня апраўдала першапачатковае значэнне слова гоні — адлегласць паміж двума пунктамі. І як у жыцці гоні злучалі дзве кропкі, гэтак і ў сакральным свеце дзве процілегласці аб'ядноўвала магічная пагоня з яе жыццёвымі сімваламі. Тэрмін Пагоня і вытворчыя словы ад корня гон звязаны з Перуном. У ведыйскіх гімнах перамогі Індры азначаліся словам *guhenti (паражае) і g'one (нараджае), якія былі заменены дзеясловам *біці (біч/віч), але ужываўся і дзеяслоў гнаць або жаць у дачыненні да Перуна (у беларускай традыцыі гэта міф аб пагоні названага бога з цмокам або чортам). А паколькі з Перуном атаясамліваліся сімвалы жыцця, руху, імклівасці, эратызму, дык гон і даў нам шэраг слоў, якія азначаюць жыццёвае развіццё.

Лагічна, што паклоннікі Перуна, якія ўклалі столькі сакральных значэнняў у слова пагоня, павінны былі ў гербе Пагоня занатаваць і свой светапогляд двайчных проціпастаўленняў і сімвалічны вобраз свайго галоўнага бога. У навуковай літаратуры ўсталявалася меркаванне, што віцязь на белым кані — гэта выява бога Ярылы. Але, я думаю, бліжэй да ісціны ёсць выснова Якава Ленсу, які лічыў пратаыпам віцязя Зеўса (грэчаскага адпаведніка Перуна). Ленсу мае рацыю, калі сцвярджае, што "Ярылаў крыж" — не што іншае, як трансфармаванае шасціспіцавае кола — салярны сімвал, які суадносіўся да Зеўса і Юпітэра, і мог, канешне, суадносіцца і да Перуна. Паколькі, як лічылася яшчэ ў XV ст. "Перунъ есть многъ", дык адной з яго іпастасяў, магчыма, быў Ярыла (Пярун-Ярун-Ярыла). Спалучэнне ў гербе чырвонага і белага колераў указвае нам на бінарную апазіцыю агню і вады — сімвалаў Перуна. Адпаведную паралель мы знойдзем у хецкай міфалогіі, дзе бог Піруа адлюстроўваўся вярхом на кані і атаясамляўся з вайсковым бажаством Іштар у выглядзе воіна. Рымскаму адпаведніку Перуна Юпітэру быў прысвечаны белы рытуальны конь. Тое самае назіраем у дачыненні да люціцкага Святавіта. Калі ўлічыць, што Пярун у беларускіх казках называецца богам, дык натуральна суаднесці яго і да бога ў беларускіх замовах: "Выяжджаў к нам Господь Бог на белом коне и ў белом платтю..." Белы конь і белае адзенне — гэта атрыбуты вершніка Пагоні, з чаго вынікае, што ў народным уяўленні ён "Господь Бог". Але функцыі ("загорадживаць нашу скотину зялезными тынамя, замыкае золотыми ключами") "Господя Бога" перайшлі да Ярылы, а ў хрысціянскай традыцыі св.Юрыю. Сувязь Пярун — Ярыла мы сустракаем у абрадзе сустрэчы вясны. Паколькі пачаткам вясновых зямельных прац быў першы гром, дык гэты час і лічыўся прыходам вясны. А вясна нараджалася з вады або дажджу (літвы, адсюль і літо — вясна), які пасылаў Пярун. Да яго і звярталіся з просьбай:

**Памажы нам, Боже,**
**У добрый час пачаці**
**Вясну выклікаці!**

І вось Грамоўнік выязджае на златагрывым кані, які срэбнымі падковамі выбівае з воблачных скал іскры — маланкі. Пярун стварае райскі, светлы храм — веснавое неба з двума акенцамі:

**В одно воконце исходит сонце**
**В другое воконце заходит сонце.**

Вясна таксама ўвасаблялася ў вобразе вершніка на белым або залатым кані.

**Едзиць весна, едзиць**
**На залатом кони.**
**. . . . . . . . . . . .**
**Вязець, вязець красна**
**Ясные дзянечки,**
**Частыя дожджочки.**

Беларусы ўяўлялі вясной Ярылу (яр — вясна) і ў абрадзе ягоны вобраз выконвала "вясноўка", адзетая ў белае дзяўчына.

Ды і конь на гербе Пагоня ў сакральным значэнні звязаны з агнём — сімвалам Перуна. Срэбныя рэчы, прынамсі, меч, вупраж, шчыт суадносяцца з Грамоўнікам. На тое, што віцязь Пагоні сімвалізаваў і Перуна, указвае манета, выяву якой прыводзіў Тэадор Нарбут. На адным баку яе выбіты Пярун, які сядзіць на драпежнай птушцы (пэўна, арле) з маланкамі ў руцэ, а на другім баку — выява віцязя на кані. Гэта самая старажытная выява Пагоні сягае ў дахрысціянскія часы. Манеты з Перуновай пагоняй называліся Перуновыя залатыя (пра іх нагадвае ў сваім запавеце ў 1493 г. шляхціц Боладзіч). Выява вершніка з паднятай рукой ёсць на валуне ў Браслаўскім раёне, выбіта гэтая выява яшчэ ў дахрысціянскія часы.

Белы конь таксама сімвал сонца і салярных багоў. З канём звязаны рытуал прыёму ў род (сям'ю), пастрыжэнне хлопчыка і пасаджанне яго на каня. Конь — сімвал блізнечнага культу (на вільчаках выразаліся дзве конскія галавы).

Можна шмат пісаць пра сакральную сімволіку Пагоні, але звернем увагу на колеравыя спалучэнні чырвонага поля і белага віцязя. Белы колер, як сімвал жаночага пачатку, можа ўказваць, што белы віцязь сімвалізуе такое вызначэнне, як Маці, а чырвоны (мужчынскі пачатак) — Айчыну, адсюль бінарная апазіцыя Маці-Айчыны. Напрыклад, Павал Сапега, вялікі гетман Літоўскі пісаў: "Праз удзячнасць мілай Маці Айчыне не шкадаваў для яе фартун, здароўя і крыві маёй". Гэтае спалучэнне жаночага і мужчынскага пачаткаў мы назіраем у абрадзе сустрэчы Ярылы, калі пад яго імем выступае дзяўчына. Апазіцыя чырвона-белага колераў Пагоні дае нам бінарную апазіцыю муж-жанчына (муж-чына). Адным з галоўных абавязкаў мужчыны, паводле ўяўленняў беларусаў, была абарона Маці-Айчыны. "У праследаванні ворагаў, якое па-народнаму завецца пагоняю, павінны ўдзельнічаць не толькі рыцары, але і кожны мужчына, які можа насіць зброю, якога б ні быў паходжання і стану". Як бачым, паняцце Пагоня служыць медыяльным словам, якое сімвалічна злучала народ з Маці-Айчынай, "нашай літоўскай зямлёю", як сказана ў грамаце Ягайлы ў 1387 годзе. Глыбокае сімвалічнае значэнне мае і срэбны меч у руках віцязя Пагоні. Меч — гэта сімвал прыналежнасці чалавека да роду, народа, сям'і (сваяцтва па мячы — сваяцтва па бацьку). Меч — гэта сімвал вернасці, праўдзівасці (на мячы кляліся); сімвал кары за клятваадступніцтва і здраду, духоўнага абнаўлення свету (Хрыстос казаў: "Не мір прыйшоў я прынесці, але меч"), Боскага слова ("меч вуснаў маіх"), гераізму і мужнасці (героі Кулікоўскай бітвы Андрэй Полацкі і Дзмітрый Бранскі "с острого меча вспоены в Литовской земле"), абароны ад чорных сіл, нечысці, д'яблавых служак, у беларускіх замовах срэбным мячом Хрыстос бароніць людзей ад чорнай сілы). Як вынікае, белы віцязь увасабляе сабой усе светлыя сілы, якія абараняюць жыццё. Ён павернуты на захад, туды, дзе заходзіць сонца і адкуль з'яўляецца ноч, і сімвалізуе барацьбу святла і цемры за жыццё. Белы колер віцязя ў гэтым выпадку азначае світанак, а чырвонае поле — новы дзень, зару або пагоніцыю (нагадаем, што ў ведыйскім гімне Індра запальвае ранішнюю зару).

Вельмі важнае значэнне мае сімвалічна-рытуальнае змяшчэнне мяча ў правай, а шчыта ў левай руцэ. Гэтым самым у гербе адлюстроўвецца бінарная апазіцыя права—лева. Пра сімвал мяча ў правай руцэ віцязя Пагоні мы казалі, але нагадаем такую істотную сувязь Зара— Пагоніцыя і другую яе назву Дзянніца. Сімвалічны намёк на тое, што барацьба віцязя з чорнымі сіламі за Пагоніцыю—Дзянніцу — правая справа, а права, як сімвал неба (адсюль і правіць, а таксама такое паняцце як улада ад Бога, г.зн. улада павінна быць правая — змагацца з цемрай, чорнай навалаччу за Дзянніцу — новы дзень, сонца, жыццё). У рытуальных абрадах у правай руцэ трымалі дубец асвячонай вярбы або вербалозы, а гэта віці, якімі абвяшчалася Пагоня. Таксама свечкі грамніцы, як сімвал "Жывога агню" і абаронны сродак ад нечысці. Зноў выхад на Перуна і ягоную Пагоню. Віці і свечка выступаюць працягам сімвалічнага шэрагу мяча. Віці звязваюць сімволіку Пагоні з правобразам сусветнага дрэва — вербалозай. А пра значэнне сімвала свечкі казаць залішне — гэта і святло, і ачышчэнне, і сувязь з Богам і небам, і астральная абарона, і ахвяраванне, і жывы агонь і г.д. У левай руцэ віцязь трымае шчыт (тарчу) — сімвал моцы, еднасці, абароны, вернасці, заступніцтва, гераізму ("са шчытом або без шчыта"), павагі да герояў (забітых на полі сечы неслі на шчытах), сімвал прыналежнасці да роду/народу (гербы на шчытах), трохкутны шчыт вяршынай уніз сімвалізуе дождж (літву). Якой пашанай карыстаўся у славянаў шчыт, сведчыць той факт, што люцічы, ідучы супраць ворагаў, неслі наперадзе шчыт Яра-віта. У народнай традыцыі левую пазіцыю шчыта займаюць жытнёвыя каласы (сімвал Жыценя—Віценя—Пагоні), луста хлеба і абраз. Сімвалы гэтых паняццяў суадносіліся з сімвалам шчыта.

Яшчэ адна паралель пераходу народнай сімволікі ў хрысціянскую — гэта адпаведнасць Ярылы вобразу св.Меркурыя Смаленскага — хрысціянскага заступніка беларусаў. Паводле ўяўленняў беларусаў, Ярыла меў яшчэ адзін атрыбут — чалавечую галаву ў правай руцэ. Такі ж атрыбут меў і Меркурый. Генетычная сувязь паміж двума вобразамі відавочная. Беларусы верылі, што ў ліхія часы Меркурый падымаецца з труны, бярэ зброю і абараняе іх ад бяды, таму віцязя Пагоні ўяўлялі і за вобраз св.Меркурыя. Але што істотна, дык і Вітаўт (чацвёрты сын Кестута, уладар Пагоні і Калюмнаў), паводле ўяўленняў беларусаў, у хвіліны нялёгкіх выпрабаванняў падымаецца з магілы, каб дапамагчы ім.

Такім чынам, герб Пагоня сімвалізаваў у беларусаў жыццё. Невыпадкова, што Пагоня мае такое сінанімічнае развіццё: Віці — Віцень — Быцень — Жыцень. Гэта добра разумелі ў мінулым, таму летапісцы і прыпісалі прыняцце Пагоні за дзяржаўны герб Вялікага княства Літоўскага вялікаму князю Віценю. Можна смела сцвярджаць, што па сваім сімвалічным значэнні, унікальным спалучэнні язычніцкай, хрысціянскай, міфа-паэтычнай, народнай і гістарычнай традыцыях, сваім старажытным паходжанні герб Пагоня не мае роўных сярод іншых гербоў. Як нацыянальны гістарычны сімвал беларусаў ён не мае альтэрнатывы. Гэта святыня беларускага народа!

Расшыфроўка сакральнага значэння Пагоні, як герба, гэтак і сістэмы светапогляду старажытных беларусаў можа раскрыць і табуістычны сэнс наймення крэвічы/крывічы. Крэвы праз малітву медыяльна злучыліся з богам, які перадаў ім уладу над людзьмі. Сімвалічна крэвы выступалі пераемнікамі Перуна на зямлі, а крэвічы/крывічы — іх паслядоўнікамі. Можна зрабіць выснову, што гэтае найменне мела больш глыбокі сэнс — Перуновы дзеці. "Крэва" ў найменні выконвала табуістычную ролю — падмяняла сапраўднае імя Перуна імем ягонага жраца. Нічога дзіўнага ў такім тлумачэнні імя крывічы няма. Першабытныя людзі ўяўлялі першага чалавека, як богападобнага продка. Напрыклад, індзейцы Місісіпі лічылі, што першы чалавек стаў богам грому. Ірландцы сваім першапродкам лічылі бога вады Нуада.Нашу гіпотэзу пацвярджае ўжо цытаванае паданне. Пасля таго, як пасля Перуновага ўдару ў "нібы камень, нібы што" (гэтае "нібы што" можна прыняць за дэмана Агі гарая), "высветлілася" жыццё, завёўся чалавек. Паданне маўчыць, хто нарадзіў яго, адкуль ён узяўся. Гэты "нехта" пад імем Бай (вядома, што венеты/енеты, да якіх залічваецца і народ акрывіі (а Літва, паводле нямецкіх хронік, "калісьці звалася Венедыяй") пакланяліся Ignis (агню) et Bajas; слова бая мае азначэнне чары, абаянне, рытуальная малітва, такім чынам атрымліваецца чароўны агонь або агонь і ягоны чараўнік Бай) завёў "свае чалавечыя парадкі", займеў ад жонак дзяцей. Перад смерцю ён падзяліў сваю маёмасць сярод сыноў, аднаму з іх Белаполю дасталіся два сабакі Стаўры і Гаўры. Бай наказаў сыну пусціць сабак у абодва бакі, і колькі зямлі яны абягуць удзень, дык уся гэтая зямля будзе належаць яму. Белаполь выпусціў дзве птушкі, за якімі і пабеглі сабакі, "дык да гэтага часу не вярнуліся, а па іх слядах дзве рэчкі працягнуліся, у адзін бок прайшла Дзвіна, а ў другі бок — Дняпро. На гэтых абшарах і жывуць нашчадкі Белаполя — беларусы. У другім варыянце падання гаспадар сабак Стаўры і Гаўры названы Бой, значыць "першапродак" называўся Бай/Бой. Гэтыя паданні нам нічога не растлумачылі б, каб не зафіксаванае этнографамі свята "Стаўраўскіх дзядоў", на якіх беларусы звярталіся да міфічных сабак: "Стаўры, Гаўры гам! Прыхадзіце к нам". Значыць, паданні перадаюць архаічны міф пра паходжанне крэвічоў/крывічоў. Канешне, гэты "нехта" першапродак крывічоў хаваецца за табуістычнае імя. Дзякуй В.Дуніну-Марцінкевічу, які захаваў у вершаваным перакладзе падання імя князя Грамабоя. Паданне звязана з "Староўскімі дзядамі" і генетычна працягвае паданні аб паходжанні беларусаў-крывічоў. І князь Грамабой, які ўладарыць над крывічамі, успрымаецца нашчадкам Боя. Гэтае паданне нібыта раскрывае сапраўднае імя Бая/Боя — Грамабой, г.зн. Пярун.

Пэўна, невыпадковае спалучэнне колеравых спалучэнняў, бо ў адным з варыянтаў Бой панаваў у горадзе Краснаполлі, а сына Бая звалі Белаполем. Чырвона-белая апазіцыя — сімвал стварэння Перуном жыцця: агонь і вада. Невыпадковым трэба прызнаць і з'яўленне ў паданні князя літоўскага Віта. Само імя выводзіць на сінанімічны шэраг Віца — Віцень — Пагоня. А Пагоня, як мы бачым, кодавы знак светаўяўлення паклоннікаў Перуна. Але паданне намякае, што Віт — гэта князь Вітаўт. Сакральнае значэнне гэтага імя можна растлумачыць так: жыццё народа (у індаеўрапейскай традыцыі tevta/tavta — народ; беларускае tutejszy (першапачаткова магло гучаць тоўт), святло народа, абаронца народа, што суадносіцца да ролі Перуна. Само сабой узнікае здагадка, што Вітаўт неяк

звязаны з Перуном. Вітаўт быў чацвёртым сынам Кестута, а Перуну прысвечаны чацвёрты дзень тыдня. Значыць, праз сімвалічнае значэнне лічбы чатыры паданне зноў выводзіць нас да Перуна. І тым самым падкрэслівае блізкасць уладара крывічоў да ўладара літвінаў. Абодва носяць табуістычныя імёны Перуна. Паданні дапаўняюць адно другое і ўказваюць нам міфічнага першапродка крывічоў Перуна. Таму і шанавалі гэтага бога нашы продкі, надаўшы яму эпітэт Ясны нароўні з сонцам і зорамі. І не трэба здзіўляцца, што толькі на Беларусі каля Віцебска ў 1684 г. быў знойдзены вялікі залаты стод Перуна. І менавіта беларусы захавалі галоўны міф пра індаеўрапейскага бога Грому. "Дадзеныя жывой да гэтага часу беларускай традыцыі" дазволілі сучасным даследчыкам В. Іванову і У. Топараву рэканструіраваць міф пра бога Грому. Зразумела, што гэтая жывая традыцыя сведчанне глыбокай пашаны беларусаў да Перуна, пачатак якой сягае ў часы індаеўрапейскай супольнасці.

Пэўна, у глыбокай старажытнасці крэвічы/крывічы былі своеасаблівай жрэчаскай кастай, а іх спадчына — гімны, малітвы, магічныя рытуалы, міфы — гэта багацейшы беларускі фальклор, які не мае сабе роўных па багацці сярод еўрапейскіх народаў. З гэтай нагоды заўважым, што тоесныя да *віч* словы *вет, віт, від* азначалі чарадзейства, празарлівасць, вешчы. Дык можна расшыфраваць найменне крэвіч/крывіч як крэвы вешчыя. Невыпадкова, што крыўскі князь Усяслаў, паводле "Слова аб палку Ігаравым", меў вешчую душу, а беларусы ўяўляліся іх суседзямі як чараўнікі.

А цяпер можна расшыфраваць і сакральны сэнс наймення літвіны. На бытавым узроўні літвіны, або вітвіна, або гоны азначала парасткі, якія з'яўляліся пасля дажджу — літвы. Паколькі літва была напоем жыцця, дараванага людзям Перуном (азначэннем, якое звязвала дождж (літву) з Перуном, было слова пярыць), дык найменне літвіны ў больш глыбокім сакральным сэнсе разумелася, як Перуновыя дзеці. Як вынікае, літвіны і крывічы — сінонімы аднаго і таго ж сакральнага азначэння. Таму зразумела, чаму нашчадкаў крывічоў, якія жылі ў Мяшчэрскім краі, называлі Літвой. Другі прыклад, віленскі Крывыград або Крывіч-град адносіўся да літоўскай палавіцы. Віленскую Крэўскую браму ў хрысціянскія часы пачалі называць Вострай, а сінонімам гэтага эпітэта быў у славян эпітэт літы. Зноў жа ў летапісах крывічы выступаюць як літва.

Варта разгледзець сакральны сэнс наймення дрыгавічы — славянскага племені, якое жыло на землях старажытнай Беларусі. Патранамічны суфікс *віч* указвае нам, што гэтае найменне не магло ўтварыцца ад слова дрыгва (балота). Магчыма, імя Драг, Драгавіт (пашыранае сярод люцічаў) і было патранамічным для дрыгавічоў. Але ранейшыя крыніцы пад 614 год называюць дрыгавічоў другавітамі.Гэтак называе іх у X ст. і Канстанцін Чырвонародны. Значыць, назва другавічы паходзіць ад імя Друг/Другі. Семантыка наймення Крэва звязана з паняццем гнуць, якое пераходзіць у паняцце гарэць. "Цікава, што значэнне "гарэць" можа даваць значэнне "радзіць, народ", а гэта апошняе пераходзіць у значэнне "другі" (Маковский М. М. "Удивительный мир слов и значений". Москва, 1989, с.143). Напрыклад, старажытнаангельскае *drigian* — "сохнуць (каля агню)", *dryge* "сухі", але славянскае другі; індаеўрапейскае *ater* — "агонь", але нямецкае *ander* — "другі". Такім чынам, другавічы — гэта другіявічы, драгія-вічы, браты тых, хто меў у сваёй назве азначэнне віч/віт. Другавічы былі паклоннікамі Перуна. "Жыцце св. Дзмітрыя Салунскага" распавядае, што яны звярталіся да гэтага бога.

Нельга абмінуць і "першапродкаў" беларусаў — волатаў. Шматлікія курганы — капцы беларусы называлі валатоўкамі і лічылі, што там пахаваны волаты, ранейшыя жыхары Беларусі. На валатоўках спраўлялі Радаўніцу (дзень продкаў). Волаты ўяўляліся асілкамі. "Гэта цяпер людзі здрабнелі да сталі нядужыя, а даўней былі такія велізарныя, бы дуб", —кажа беларускае паданне. Сувязь волатаў з Перуном пацвярджаецца шэрагам фактаў. Гэтак, дуб на менскім капішчы называўся Волат. У беларускіх казках асілкі-волаты надзелены змеяборчаскімі функцыямі, г. зн. працягваюць традыцыю Перуна. Заканамерна выснова В.Іванова і У.Топарава. Што роля волатаў вельмі "падобна з функцыяй Перуна ў галоўным міфе". "У многіх паданнях аб асілках захоўваецца матыў разбівання камення і каменнай зброі, характэрны і для Перуна... У палескай казцы палёт у небе булавы асілка апісваецца праз сувязь з громам". "Каваль-багатыр" з палескай казкі адчувае генетычную сувязь з громам ці дажджом: "Ляжыць і любуецца, як Перун чарцей палюе... Добра яму спаць, як спяваюць буры і грымоты". Герой беларускага эпасу Ілля (імя хрысціянскага святога, які "апекаваўся" дажджом і грымотамі) пасля смерці збіраецца "грамавой тучай заведуваць". Польскі храніст Станіслаў Сарніцкі (XVI ст.) адзначыў папулярнасць на Беларусі паданняў аб "героях, якіх называюць волатамі або полубагамі". (Цікава і значэнне слова волаці — клікаць на дапамогу, патрабаваць, прасіць).

*(Працяг будзе.)*

Наш каляндар

# "ТАЯМНІЦА" ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА

Споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Пяць гадоў таму "ЛіМ" досыць грунтоўна, у некалькіх нумарах, адзначыў яго 90-гадовы юбілей. А галоўнае — расказаў пра жыццё і асобу нашага выдатнага земляка, чые сталыя гады прайшлі на чужыне. Прынамсі, у нумары тыднёвіка за 15.06.90 г. была распачата публікацыя аўтабіяграфічных нататак М. Забэйды-Суміцкага, друкаваўся яшчэ й артыкул С. Берасцень "Шчаслівы і трагічны лёс", у якім змяшчаліся невядомыя нават для асабістых знаёмцаў спевака архіўныя матэрыялы. Тыя матэрыялы С. Берасцень знайшла ў фондах Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі. Вось — цытата з артыкула: "Раптам я натрапіла на старонкі, якія адрасуюць толькі асабліва блізкім сябрам — падобныя да дзённікавых зваротаў пісьмы да любімай жанчыны. На жаль, мне пакуль не давялося высветліць, хто яна, ці жыве цяпер. Паводле запісаў зразумела, што значна маладзейшая ад Забэйды; хварэла на лёгкія; мела музычную адукацыю; жыла ў Расіі..."

Далей змяшчаюцца перакладзеныя з рускай пісьмы Забэйды, якія ён пісаў сваёй таямнічай сяброўцы Лялі ў 1954—60 гадах. Артыкул "Шчаслівы і трагічны лёс" завяршаўся своеасаблівым зваротам да людзей дасведчаных: "Я спадзяюся з часам знайсці адказ на пытанне, хто ж яна, невядомая Ляля, да якой М.Забэйда звяртаўся пяшчотна ў сваіх простых і цудоўных пісьмах. Мо нават у хуткім часе гэта высветліцца? Бо святкаванне нашай грамадскасцю юбілею спевака — аб'ектыўная нагода для абмену інфармацыяй, збору дакументальных матэрыялаў і жывых сведчанняў".

Мінула пяць гадоў — і "таямніца" набыла канкрэтнае імя дзякуючы карпатлівай працы над архівам спевака, праведзенай вядучым навуковым супрацоўнікам Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Г. Жукавай. Матэрыял са здымкамі, прапанаваны ёю для публікацыі, на жаль, давялося крыху скараціць — за кошт выняткаў з тых лістоў М. Забэйды, што ўпершыню друкаваліся ў "ЛіМе" пяць гадоў таму.

У БІЯГРАФІІ кожнага чалавека ёсць старонкі, якія складаюць адметнасць яго жыцця. У М. Забэйды-Суміцкага — гэта адданасць песні, якую ён пранёс праз усё сваё доўгае і складанае жыццё. Многа напісана пра гэтага чалавека, многае яшчэ трэба даследаваць, каб да канца зразумець усю трагічнасць яго лёсу. Я хачу расказаць толькі пра адну старонку.

Разбіраючы архіў спевака, я зацікавілася лістамі Алены Валянцінаўны Багуцкай, якіх у фондзе аказалася даволі многа. Хто гэта? І якое месца ў жыцці М.Забэйды займала гэтая жанчына?

Пазнаёміліся яны ў жніўні-верасні 1945 г. у Празе ў доме Барыса Лявіцкага, украінца, хіміка-парфюмера. У яго доме спынілася сям'я Багуцкіх, вяртаючыся з Германіі, куды была вывезена немцамі на пачатку вайны з Вінніцы. Алена, якой на той час споўнілася 25 гадоў, хварэла на сухоты. У Празе выгнаннікі спыніліся, каб крыху паправіць яе здароўе. Тут, у доме Лявіцкіх, і адбылося знаёмства Міхася Забэйды з Аленай Багуцкай. Іх сяброўства пазней перарасло ў каханне. Але гэта было трагічнае каханне, якое скончылася адзінотай двух цудоўных людзей. Праз тры гады, у 1948 г., Алена з маці вяртаюцца на радзіму ў Вінніцу. Пачынаецца перапіска, якая доўжылася да канца жыцця М. Забэйды.

У архіве спевака захавалася некалькі лістоў-чарнавікоў да А.Багуцкай. Гэта найкаштоўнейшы матэрыял для даследчыкаў жыцця і творчасці М.Забэйды. Адказваючы на пытанні сяброўкі, ён піша пра свае сціплыя ўмовы жыцця, пра сваю творчасць, паўсядзённыя клопаты. Прывяду некалькі вытрымак у перакладзе з рускай.

"...Даруй мне, дарагая Ляля, што я так даўно не пісаў табе. У мяне было багата клопатаў у сувязі з наладжваннем канцэрта. Ён ужо адбыўся 5 лістапада і прайшоў з вялікім поспехам. Але яшчэ за некалькі дзён перад канцэртам я не быў упэўнены, што змагу спяваць, бо маё і без таго нездавальняючае здароўе яшчэ пагоршылася праз звычайны грып. Але вялікі вопыт і вялікая папярэдняя падрыхтоўка дапамаглі пераадолець усе цяжкасці. Спяваў на васьмі мовах і на кожнай мове мусіў, як патрабавала публіка, што-небудзь паўтарыць. Многія сказалі, што я яшчэ ніколі так хораша не спяваў. А я думаю, што ўражанне ад ранейшых выступленняў ужо сцёрлася, таму гэтак і гавораць. Але і ў газетах крытыка была вельмі добрая, між іншым напісалі, што мая праграма была ўзорам вакальнага вечара, якіх у Празе бракуе. Што тычыцца мяне, дык я радаваўся таму, што даваў радасць іншым...

Я ўвесь адыходжу ў сваю працу: выкладанне спеваў і, калі магчыма, выступленні ў канцэртах. І з радасцю магу адзначыць, што знаходзяцца людзі, якія ўсё больш разумеюць і цэняць маю працу, а я ёй прысвяціў усё жыццё. Дагэтуль, як артыст, я быў выкарыстаны ледзьве на 10 працэнтаў сваіх магчымасцяў, а перад вайной попыт на мае выступленні перавышаў мае фізічныя магчымасці". 16.XII.1954 (ф. 293, в. 1, с. 132, л. 1-3).

Так і пражыў у адзіноце гэты таленавіты і сціплы прафесійны спявак усё жыццё на чужыне, у маленькім пакойчыку, у якім заўсёды былі чысціня і парадак, і атрымліваў за свой талент мізэрную пенсію. Здароўе было кепскае. У маладосці хварэў на сухоты, а вайна дадала хваробу сэрца. У 1944 годзе за сувязь з патрыётамі хворага артыста проста з бальнічнага ложка забралі гестапаўцы. Ад смерці ўратаваў шчаслівы выпадак. Але след ад нервовага напружання застаўся на ўсё жыццё. А яшчэ застаўся страх, страх перад вайной, якая калечыла лёс, забівала таленты, разлучала з дарагімі людзьмі...

І не толькі вайна, а і няспынная сталінская машына, якая, як жорнамі, перамолвала чалавечыя лёсы і жыцці, перашкодзілі вярнуцца спеваку на радзіму. Засталася адзіная нітачка сувязі з блізкімі і знаёмымі — лісты. Іх шмат ад розных асоб. І ён знаходзіў час, каб усім даць адказ.

З Аленай Валянцінаўнай перапіска доўжылася да апошняга года жыцця М. Забэйды-Суміцкага. Жывучы ўжо ў Вінніцы, сям'я Багуцкіх з цікавасцю сачыла за творчасцю Забэйды, ён заўсёды прысылаў ім свае пласцінкі (пліткі) з новымі песнямі, яны не прапускалі ніводнага канцэрта, якія гучалі па радыё з яго ўдзелам. Алена Валянцінаўна заўсёды раілася з Міхасём, як з самым блізкім чалавекам. А як хацелася ім сустрэцца, пабачыцца, пагутарыць! Але межы, жорсткія ўмовы ўезду і выезду, цяжкасці з афармленнем дакументаў і многае іншае не дазволілі сустрэцца. Так і жылі гэтыя двое цудоўных людзей кожны са сваёй адзінотай.



*М.Забэйда-Суміцкі. 1958 г.*



*А.Багуцкая. 1955 г.*

**Ганна ЖУКАВА,**
**вядучы навуковы супрацоўнік БДАМЛіМ**



**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Эдуарду ВАЛАСЕВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сястры Яніны Станіслаўны.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Пятру Прыходзьку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці дачкі Людмілы Пятроўны.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Анатолю САБАЛЕЎСКАМУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі Венеры Архіпаўны.**

*Пакінем часова падарожніцкія падрабязнасці, — як, маўляў, цяжка бывае адарвацца ад тутэйшых мітрэнгаў і апынуцца... Дзе б?*

*Я апынулася ў майскім горадзе Каіры (пра які ўласны сын тры дні таму тлумачыў: "Мама, гэта ў Афрыцы!"), між нечуваным блакітам і няспыннымі аўтамабільнымі плынямі, я дыхаю спраўным загазаваным паветрам і ад яснасці прачынаюцца жаданні душы маёй — прагнецца пірамідаў, егіпецкага музея, Ніла, званка дахаты, невядома чаго перадусім... "Жана, — мовілі мне з мяккім арабскім маўленнем, але цвёрда, — усё будзе. Толькі — арганізавана. Жадай па справе". Праз колькі дзён (калі каірскі журналісцкі сімпозіум — менавіта на яго нас запрасілі — канчаткова дастаў з усіх дух) трое калег, што зажадалі сабе справы, уваходзілі ў... знаёмую рэдакцыйную сумятню. Журналісты Беларусі, Украіны і Расіі ядналіся ў калегіяльным жаданні, ідучы праз заваленыя паперамі й камп'ютэрамі сталы на сустрэчу з галоўным завадатарам і сведкам ці не ўсіх арабскіх літаратурных здзяйсненняў ды спадзяванняў, — галоўным рэдактарам "лімаўскага" паплечніка ў вялікай літаратуры вялікага свету — газеты "Абхар аль Эдэб" ("Літаратурныя навіны") спадаром ГАМАЛЕМ АЛЬ ГІТАНІ.*

*Каб не задаваць дзяжурных пытанняў пра наклады, распаўсюджванне ды попыт, узбройваюся ведамі і адразу дзялюся імі з вамі: літаратурную газету выдае магутны канцэрн, які падзяляе назоў са сваёй самай вялікай і ўплывовай газетай "Абхар Эліём" (наклад 1 млн. 200 тыс.), вылучаецца асаблівай журналісцкай школаю (сучаснасцю стылю і мыслення) і не грэбуе прыгожымі мастацтвамі (мае шэраг выданняў па тэатры і кіно). На "Ахбар аль Эдэб" не павышаюць цану (нават тады, калі павышаюць на ўсё), спрыяюць таму, каб яе прэстыж мацавалі некалькі конкурсаў (паэзіі і апавядання), зміраюцца з тым, што прыбыткаў газета не дае, а сёе-тое часам і вымагае са сваіх выдаўцоў. "Ахбар аль Эдэб" мае заўважны ўплыў на інтэлігенцыю арабскага свету: усе нашы перакладчыкі, прынамсі, а сярод іх быў прафесар матэматыкі і доктар-анколаг, яе чытаюць пастаянна. Пры гэтым падкрэсліваюць, што газета — не самая распаўсюджаная, але ў Еўропе яе добра ведаюць, асабліва ва універсітэцкіх і навуковых цэнтрах.*

*Спадар Гамаль Аль Гітані — вядомы пісьменнік, аднак толькі два ягоныя раманы з'явіліся ў перакладах на мовы народаў — насельнікаў былога Саюза. Можна было б параўнаць ягоную вядомасць і папулярнасць са знаным Нагібам Макфузам, між тым тое, пра што пісаў Макфуз, шчыльна звязана з пэўным, абмежаваным колам і асяродкам. Аль Гітані дае панараму егіпецкага жыцця, схіляецца да фантазій, антыутопій... Адзін з ягоных улюбёных пісьменнікаў — Дастаеўскі, і вельмі дзіўным спадар рэдактар палічыў тое, што падчас былога СССР Дастаеўскі не карыстаўся ні вядомасцю, ні прызнаннем, ні належным вывучэннем...*

# "НАРОДНЫ ХАРАКТАР ЗАСТАЎСЯ НЯСКРАТНЫМ..."

— Дарэчы, яго паступова адкрывае і арабскі свет, — працягваў спадар рэдактар. — І я асабіста змагаюся з меркаваннем пра тое, што з літаратурамі народаў свету варта знаёміцца толькі праз Лондан або Парыж. Я намагаюся разбурыць уяўленні пра іх, як пра адзіна вартыя цэнтры перакладчыцкага майстэрства, бо персы, туркі, кітайцы, японцы бліжэй да Егіпта, урэшце... Мы ніколі не перакладаем з мовы-пасрэдніка. Толькі з арыгінала. Самыя вядомыя арабскія пісьменнікі супрацоўнічаюць з намі. Раней лічылі найперспектыўнай газету "Аль Ахрам", я і сам марыў пісаць туды. Цяпер — адмаўляюся ад яе літаратурных старонак. Мяне не задавальняе іхні ўзровень.

**— Мы даведаліся, што ваш рэдактарскі партфель паўнюткі, але пачулі думку, што ў Егіпце малавата літаратурных выданняў...**

— Егіпет — дзівосная і дзіўная краіна. Штодня яна нараджае таленты, літаратурныя — таксама, але штодня робіць усё, каб гэтыя таленты зводзіліся. Мардуе іх або марнуе. Эканоміка і цяжар жыцця няшмат каму дадуць падняцца. Культура не мае вялікай ролі ў палітыцы ўрада. Я — пісьменнік, мне ёсць чым заняцца за рабочым сталом, а гэта, дайце веры, не лягчэй, як кіраваць газетаю. Між тым газету сваю мы арыентуем у будучыню, даючы магчымасць дэбютаў, задаючы добры літаратурны тон. Гэта не менш важна за мае кнігі. Часам я асабіста прашу грошы ў багатых людзей, каб падтрымаць ды заахвоціць талент пачаткоўца. З усмешкаю згадваю, як чалавек, надта далёкі ад культуры, — ён нічога не чытае і не хавае гэтага, — выдаткаваў нам на прэміі і сказаў пры гэтым, што яму вельмі шкада маладзёнаў, якія галадаюць. Але параўнайце: дзяржаўная прэмія Нагібу Макфузу склала 5 тысячаў фунтаў, мы даём па 60 тысяч. Здаецца, дзяржаўнае чынавенства робіць высновы...

**— У Егіпце, на сустрэчах самага рознага ўзроўню, падкрэсліваюць: мы, маўляў, краіна 60 працэнтаў непісьменных людзей. Літаратура? Нам важней за ўсё — тэлебачанне...**

— Я мяркую, перш-наперш, што гэтых непісьменных адсоткаў — за 80. Бо часам той, хто трымае ў кішэні дыплом універсітэта, наўрад ці можа лічыць сябе адукаваным чалавекам. Усім, думаю, знаёмы гэткі парадокс. Але няможна браць пад увагу толькі сродкі масавай інфармацыі. Бывае, па непісьменнай вёсцы ходзіць чалавек, — з тых, хто не ўмее распісацца, — ды культураю сваёю ён вышэй за універсітэцкага прафесара. Такім чалавекам быў і мой бацька...

**— Вы маеце на ўвазе тое, што мацней за любую адукацыю — маральнасць?**

— Вобраз егіпецкай культуры ў пэўным сэнсе — абарона ад маральнага заняпаду. Тое, што існуе моцная рэлігія (хоць я вельмі крытычна стаўлюся часам да таго, што яе суправаджае), прымушае мяне вучыць свайго сына, напрыклад, што падман — гэта грэх. Праўда, ён ідзе ў грамадства, дзе ўсе хлусяць, але я ў адказе за ягонае сумленне.

**— Вы вядомы сваімі сацыялістычнымі схільнасцямі. Як яны стасуюцца з вашым сённяшнім жыццём? У адным з вашых раманаў дзейнічае адметны шэйх, які на свой капыл увасобіў сацыяльную справядлівасць: патаемнымі высілкамі ён пазбавіў жыхароў свайго квартала мужчынскай моцы, і гэта паўздзейнічала на парадак жыцця куды больш моцна, чым размеркаванні, пакаранні і г.д.**

— Я хацеў выклікаць шок у чытачоў. Хто можа рэгуляваць, кантраляваць, унармоўваць, хто мае права на гэта? Чалавечае жыццё не можа кіравацца чыёйсьці адною воляю, нават калі воля гэтая — чалавека святога. У Егіпце, заўважце, ніколі не было сацыялізму. Як і ў СССР. Але чаму трэба абвяшчаць няслушнаю самую сацыялістычную ідэю? Я яшчэ веру ў сацыяльную справядлівасць. Мне крыўдна, што так званая перабудова і разбурэнне, раскіданне Саюза прынеслі невымерную шкоду. Тое, што рабіў Гарбачоў, калісь спрабаваў у Егіпце Садат. Але ён не здужаў чалавечай маральнасці. У вас справа зайшла далёка, — і гэта жахліва.

**— І тым не менш праблемы ў нас — адны на ўсіх, нягледзячы на тое, што Егіпет, здаецца, краіна памяркоўная?**

— Усе сусветныя праблемы ўласцівыя нам. Але ў нашым грамадстве, напрыклад, не можа ўкараніцца ды расквітнець гвалт, — надта глыбокія цывілізацыйныя карані. Мы, здаецца, заўжды шукалі свайго — шляху ў свеце, падпарадкуючыся характару, ментальнасці. Напрыклад, праца з зямлёй вымагае ад егіпецкага селяніна чагосьці не агульнапрынятага, адметнага падыходу, і гэта вызначае агульнаграмадскае мысленне. Мы — краіна ўсіх рэлігій, нават Майсей жыў у доме фараона. Вы, вядома, зараз жа перапытаеце ў мяне пра тэрарызм і фундаменталізм. Я мяркую, што гэтыя ідэі ўвезены сюды з краін, развітых куды горш за нас. Ідэі былі прыняты грамадзянамі менавіта ў момант найноўшых і найгоршых цяжкасцей. Феномен фундаменталізма трэба разумець на фоне нашых сучасных праблем. Калі вызначаць прычыны, дык я называю іх мужна, не саромеючыся: сацыяльная несправядлівасць, карупцыя, беспрацоўе. Мяркую, што ў Егіпце такая карупцыя, якой нідзе ў свеце не існуе, — нават у краінах, якія ўпершыню вызначылі, што ж гэта за з'явішча такое. А што да несправядлівасці, дык хіба можна, напрыклад, вучыць чалавека ва універсітэце, дбаць пра ягоную адукацыю, а потым — выкідаць



на вуліцу? Пры гэтым уласцівасць грамадства такая, што ён не можа жаніцца (маёмасці няма), не можа мець ні легальных ні схаваных сексуальных дачыненняў (закон і менталітэт не дазваляюць). Азлабленне побытам даводзіць да роспачы: чым не грунт для гвалтоўных ідэй? Чаго хацець ад чалавека, занядбанага дзяржаваю? А рэлігія кажа пра ахвярнасць, пра няверных, — толькі вось тлумачыць Каран бярэцца купка людзей, прысвойваючы сабе асаблівае права на слушнасць усіх тлумачэнняў. Зрэшты, вінаваты заўжды знойдзецца. І пра каланізатараў згадаюць, і турыстаў у амаральнасці абвінавацяць...

**— Дарэчы, здаецца, што стаўленне сярод інтэлігенцыі да каланізацыі Егіпта цяпер моцна змянілася?**

— Мы добра памятаем, што другая чыгуначная лінія ў свеце з'явілася ў Егіпце. Дзякуючы англічанам. Мы памятаем, як рабавалі краіну стагоддзямі, але нават рабаўнікі мусілі ўрэшце размаўляць нашай моваю (цяпер у фільмах яны толькі па-арабску і гавораць). Ёсць адзіная егіпецкая культура, няможна расцягваць яе па кавалках (маўляў, гэта — ад фараонаў, гэта — ад мамлюкаў, а гэта — каланізатары стараліся). Я гэта даводжу не толькі ў раманах, але мушу пісаць і артыкулы, і доследы. Егіпецкі народ на працягу пяці тысяч гадоў жыве ў адным пэўным месцы — ля Ніла. Ён не мігараваў, не перасяляўся; любая набрыдзь, як ні старалася, мусіла прыняць егіпецкую культуру і лад існавання. Пад уціскам людзей і стагоддзяў Егіпет памяняў сваю мову і нават веру, але народны характар застаўся няскратным...

Я магла б скончыць на тым, што на рэдактарскім стале зазваніў тэлефон, ды ён, гвалтаўнік, званіў увесь час. Аль Гітані між тым запрасіў нас на абед, — нас, трох цікаўных суседзяў па былым Саюзе, але шчыльная сімпозіумная праграма прапаноўвала нам абеды з іншымі людзьмі. Ды бачаць, бачаць Ісус з Алахам разам, як шкадую я той няспраўджаны абед, — працяг той гутаркі і знаёмства, якое нібы асуджана на непрацяглаць...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

**P. S.** *Падрабязны матэрыял пра наведанне "лімаўскім" карэспандэнтам Егіпта чытайце ў бліжэйшых нумарах.*

*Фота аўтара*


ЛіМ — ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Саюз беларускіх пісьменнікаў і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932–35) |
| І.Гурскі | (1935–41) |
| А.Куляшоў | (1945–46) |
| М.Горцаў | (1947–49) |
| П.Кавалёў | (1949–50) |
| В.Вітка | (1951–57) |
| М.Ткачоў | (1957–59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959–61) |
| Н.Пашкевіч | (1961–69) |
| Л.Прокша | (1969–72) |
| Х.Жычка | (1972–76) |
| А.Асіпенка | (1976–80) |
| А.Жук | (1980–86) |
| А.Вярцінскі | (1986–90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Жана ЛАШКЕВІЧ
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА
Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара -- 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі -- 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі -- 331-985
літаратурнага жыцця -- 332-462
крытыкі і бібліяграфіі -- 332-204
паэзіі і прозы -- 332-204
музыкі -- 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання -- 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 332-462
навін -- 332-462
мастацкага афармлення -- 332-204
фотакарэспандэнт -- 332-462
бухгалтэрыя -- 268-640





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6858.
Нумар падпісаны 29. 6.1995 г.
ЗАКАЗ 2404
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12